ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 11 (2537)
ПЯТНІЦА
12
сакавіка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

Менш як тры тыдні засталося да адкрыцця XXIV з'езда КПСС. У высокім форуме камуністаў краіны прыме ўдзел і пасланец Мінскай абласной партыйнай арганізацыі Аркадзь Адамавіч Гракові́ч.

25 гадоў Аркадзь Адамавіч носіць форму чыгуначніка. Не адзін мільён тон грузаў, не адну тысячу пасажыраў перавёз ён, калі працаваў машыністам. Зараз Аркадзь Адамавіч перадае свой вопыт малодшым. Ён адзін з лепшых машыністаў-інструктараў Мінскага чыгуначнага дэпо.

У сённяшнім нумары «Літаратуры і мастацтва» на 4-й старонцы А. А. Гракові́ч расказвае пра сваё жыццё і работу.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

Насустрач VI пісьменніцкаму

ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

# ПАЧЭСНАЕ ПРАВА, ПАЧЭСНЫ АБАВЯЗАК

**САВЕЦКАЯ беларуская літаратура заўсёды вызначалася сваімі моцнымі сувязямі з жыццём народа, высокім пафасам жыццесцвярджэння камуністычных ідэй,— яна заўсёды была актыўнай удзельніцай і натхніцельніцай рэвалюцыйнай творчасці мас.**

**Пісаць аб народзе і для народа — пачэсны абавязак мастака слова. Напярэдадні чарговага з'езда КПСС, напярэдадні пісьменніцкай справаздачы партыі і народу шмат якія пытанні, клопаты, думкі хвалююць літаратурную грамадскасць рэспублікі. Што прынцыпова новае ў здабытках сённяшняй паэзіі і прозы, драматургіі і крытыкі, якія недахопы трэба пераадолець, каб быць на ўзроўні запатрабаванняў часу? Чаго, нарэшце, чакаюць самі пісьменнікі ад з'езду?**

**Сёння на гэтыя пытанні адказваюць І. Гурскі, А. Вялюгін, А. Кулакоўскі, Н. Перкін.**

Анатоль ВЯЛЮГІН

## НАД ПОЛЕМ БОЮ



Пісьменніцкі з'езд—творчая справаздача кожнага генерала і радавога. У кожнага свая пяцігодка. Пісьмовы стол — поле жыцця і бою.

На стале—падрыхтаваны для выдавецтва двухтомнік выбраных вершаў і паэм. Дзве новыя паэмы. З імі, не спяшаючыся ў дарогу, жыў, трывожыўся, пакутаваў. І цяпер сумна: на з'ездзе не будзе гаворкі аб творах, што да гэтага дня не пабачылі свету.

Шмат чаго няма на стале, як на полі пасля бою. Былі сцэнарыі. Паводле іх на кінастудыі «Беларусьфільм» і «Тэлефільме» знята дзесяць поўнаметражных дакументальных стужак. Хацелася гаварыць аб героіцы свайго вялікага народа. Гаварыць так, каб далёка чулі. Кіно і тэлебачанне сёння—гэта шматмільённыя, з разлікам на кожнага гледача, тыражы; кіно і тэлебачанне—«багі сучаснага жыцця».

Праўда, Тадэвуш Кубяк непакоіцца: гэтыя багі—небяспечныя супернікі паэта.—«Бездапаможным сталася наша ўяўленне. Кіно гаворыць нам усю праўду, не баючыся нават фотагенічнасці смерці».

У кожнага свая думка. На досвітку кінематографа пэўна меў рацыю Бадлер: «Кіно адымае, адбірае душу ў паэзіі». Цяпер на экранах царуе слова, магутнае слова, і яно валодае сэрцамі. Да гэтага імкнуўся Маякоўскі, калі рабіў сцэнарыі, экранізаваў Джэка Лондана, сам здымаўся і сам здымаў крыху наіўныя фільмы.

Паэзія ўсюды застаецца паэзіяй, калі яна—паэзія.

Усё больш адчуваецца інфляцыя паэтычнага слова. Чытае ўся краіна. Тысячы чытачоў пішуць вершы. Кепска тое, што амаль усе, без выбару, вершы друкуюцца. І абавязкова з партрэтамі аўтараў. Часам маладыя паэты, якім бракуе творчага росту, проста на вокладцы другога зборніка даюць свой фотаадбітак на ўвесь свой, бывае, караценькі рост.

Патрэбны глабальны зрух, каб вярнуць паэзіі правы. Каб з'явіўся на свет дужы, жывы верш.

**Як з раскрытай аорты,**
**нроў тым вершам бруіцца,**
**Будзе днець а чацвёртай.**
**Брому! Трэба спыніцца.**

. . . . . . . . . . . . . . .

**Неба — золак астылы,**
**бездань мёртвага царства,**
**У сусвет гэты вылі**
**верш, як лыжку лякарства.**

(Ул. Бранеўскі).

Свет помніць, ведае сілу паэзіі. Кажуць, Гітлер не любіў Веймара і, бываючы ў гэтай частцы Германіі, заўсёды абмінаў горад. Палохалі прывіды паэзіі—вялікія Гётэ і Шылер.

І тады ж, яшчэ да трагедыі ў Гранадзе, вялікі Іспанец, дбаючы аб сапраўднай паэзіі, пісаў: «Мы павінны ўмець поўнасцю адпрэчыць яе, і тады яна сама падзе голая ў нашы абдымкі. Чаго паэзія не церпіць ні пад якім выглядам—гэта абыякавасці. Раўнадушнасць — трон д'ябла, а між тым менавіта яна дзярэцца на ўсіх скрыжаваннях у блазенскіх строях самазадаволенасці і культуры».

У той жа, ужо далёкі час, па добраму наказу Максіма Горкага ў Мінску сабраўся паэтычны пленум. Усе паэты з хваляваннем гавораць пра гэты форум.

На з'ездзе павінен прагучаць заклік: склікаць новы ўсесаюзны паэтычны форум. І па добрай традыцыі —у Мінску. Не парадны, не святочны, а рабочы, мудры пленум.

Гэта наш клопат.

Ілья ГУРСКІ

## ДАРОГУ МАЛАДЫМ



Камуністычнае выхаванне народа, згуртаванне яго вакол партыі, паказ перадавых рысаў савецкага чалавека — вось адзнакі лепшых твораў беларускай савецкай літаратуры, што з'явіліся паміж пятым і шостым пісьменніцкімі з'ездамі і заваявалі любоў нашых чытачоў.

Наша партыя аддавала і аддае вялікую ўвагу літаратуры, творчаму лёсу кожнага мастака ўпаасобку. Партыя адкрыта крытыкавала тых, хто праяўляў хістанні, рабіў памылкі. Прынцыповая крытыка дала станоўчыя вынікі.

Сёння атрад беларускіх савецкіх літаратаў як ніколі згуртаваны вакол партыі, верны перадавым ідэям чалавецтва, марксізму-ленінізму, што з'яўляецца залогам новых творчых поспехаў.

Усе сапраўды таленавітыя беларускія пісьменнікі заўсёды ішлі з партыяй, з народам, удзельнічалі ў практыцы сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта ўзбагачала іх веданнем жыцця і барацьбы працоўных, за пабудову новага грамадства, натхняла іх на напісанне новых мастацкіх твораў, на ўдасканаленне свайго майстэрства.

Неўзабаве адбудзецца XXIV з'езд КПСС, які сярод іншых пытанняў разгледзіць і зацвердзіць новы пяцігадовы план, выкананне якога забяспечыць далейшы рост нашай эканомікі і культуры, магутнасць нашай дзяржавы. Наша задача — садзейнічаць павышэнню камуністычнай свядомасці народа, выхаванню камуністычных адносін да працы, высокіх прынцыпаў савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

У свеце вядзецца вострая ідэалагічная барацьба, пісьменнікі Савецкай Беларусі былі і будуць вернымі памочнікамі партыі ў прапагандзе камуністычных ідэй, у справе пабудовы камуністычнага грамадства, у стварэнні духоўнай культуры народа.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны беларуская пісьменніцкая арганізацыя налічвала крыху болей за сорак літаратараў, а цяпер іх—каля трохсот. Пісьменнікі, якія былі прыняты ў саюз адразу пасля вайны, цяпер—так званае сярэдняе пакаленне. Яны, як кажуць, цвёрда сталі на ногі, шмат якія іх творы не толькі вядомы ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Нас радуе, што і вялікі атрад маладых пісьменнікаў набірае разгон, бярэцца за раскрыццё складаных тэм, павышае сваё майстэрства. Нам неабходна не толькі больш увагі аддаваць выхаванню іх, але і памагаць ім знайсці месца ў жыцці.

Дарогу маладым!

*У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР*

## ЗА ДАЛЕЙШЫ ЎЗДЫМ ДРАМАТУРГІІ

Калегія Міністэрства культуры БССР прыняла пастанову «Аб мерах па паляпшэнні работы з драматургамі». Адзначаецца, што па творах беларускіх аўтараў тэатры рэспублікі паставілі шэраг значных спектакляў, лепшыя з якіх атрымалі станоўчую ацэнку і былі адзначаны на Усесаюзным конкурсе. З 52 прэм'ер па п'есах беларускіх драматургаў, пастаўленых у апошнія пяць гадоў, толькі ў мінулым годзе былі паказаны наступныя — «Андрэй Касценя», «Зорка Венера», «Амністыя», «Трыбунал», «Дарога праз ноч», «Начное дзяжурства», «Юнацтва рыцара», «Адчыніце, казлянятні», «Мядовы месяц». У сёлетнім тэатральным сезоне на сцэнах прафесіянальных тэатраў ідуць 32 п'есы беларускіх аўтараў.

Разам з тым калегія адзначыла, што пакуль яшчэ ні колькасць, ні якасць сучасных п'ес не задавальняюць запатрабаванняў гледача і тэатра. Няма planавай і мэтанакіраванай работы з драматургамі ў дзейнасці рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі ўпраўлення па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР. Не падтрымліваецца кантакт з секцыяй драматургіі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У тэатрах пакуль што няма таго, што можна назваць «творчай лабараторыяй» па сумеснай дзейнасці з драматургамі (у пастанове такі дакор робіцца, у прыватнасці, Акадэмічнаму тэатру імя Я. Купалы і Рускаму тэатру БССР імя М. Горкага). Мала пішацца п'ес для юнага гледача.

Недастаткова выкарыстоўваецца такі рэзерв рэпертуару, як інсцэнізацыя лепшых твораў іншых жанраў літаратуры. Рэдка звяртаюцца тэатры і да каштоўных здабыткаў драматургіі мінулых гадоў, да п'ес, якія з вялікім поспехам ішлі на беларускай сцэне.

Упраўленню па справах мастацтваў Міністэрства культуры БССР прапанавана перагледзець рэпертуары тэатраў мінулых гадоў і выбраць з іх для аднаўлення незаслужана забытыя п'есы, якія маюць значную ідэйна-мастацкую каштоўнасць, больш актыўна весці сістэму дзяржаўных заказаў на напісанне новых сцэнічных твораў, практыкаваць інсцэніраванне лепшых твораў беларускай літаратуры. З сакавіка гэтага года да 1 сакавіка 1972 года вырашана правесці рэспубліканскі конкурс на лепшую п'есу, прысвечаную тэмам сучаснасці. Сёлета ўвосень адбудзецца семінар драматургаў рэспублікі. Рыхтуецца нарада памочнікаў галоўных рэжысёраў тэатраў па літаратурнай частцы, на якой будуць абмеркаваны праблемы творчых сувязей з драматургамі і вопыт садружнасці тэатраў з аўтарамі арыгінальных п'ес. Драматургі, якія працуюць над творамі пра сучаснае жыццё прамысловых прадпрыемстваў і калгаснай вёскі, будуць атрымліваць творчыя камандзіроўкі.

Газеце «Літаратура і мастацтва» прапанавана публікаваць матэрыялы пад рубрыкай «Трыбуна драматурга».

# САМЫ ПАПУЛЯРНЫ ЖАНР

*«З мэтай найбольш поўнага задавальнення духоўных патрэбнасцей народа забяспечыць далейшае развіццё... мастацтва, умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры».*

**З праекта Дырэктыў.**

НІХТО не адмаўляе велізарнай ролі мастацтва ў эстэтычным выхаванні працоўных. Нездарма У. І. Ленін пасля перамогі Вялікага Кастрычніка абвясціў, што яно належыць народу, і гэта вялікая выснова стала галоўнай ва ўсёй палітыцы Камуністычнай партыі і савецкага ўрада ў галіне мастацтва.

У прапагандзе мастацтва любога жанру асноўны цяжар ускладаецца на прафесійныя калектывы. У Беларусі склалася свая харавая культура, яе развіццю і станаўленню актыўна садзейнічалі прафесійныя хоры, створаныя за гады Савецкай улады. Але цяпер, на сучасным этапе духоўнага жыцця народа, іх яўна недастаткова — з аднаго боку, а з другога — яны не могуць існаваць у адрыве ад плённага развіцця вучэбных і самадзейных хораў. Вось тут і збягаюцца многія праблемы.

Колькі ў нас піяністаў, якія выконваюць у розных трактоўках фартэпіянныя творы, колькі такіх выканаўцаў на іншых інструментах! У філармоніях і іншых канцэртных арганізацыях цяпер абавязкова ёсць эстрадна-аркестравыя групы, а то і больш шматлікія калектывы, якія прапагандуюць лёгкую, эстрадную, часам і пошлую музыку. Атрымліваецца так, што мы самі ствараем умовы для перавагі джазу над усімі іншымі жанрамі музычнага мастацтва. Ніхто не адмаўляе неабходнасці мець лёгкую музыку, але добра, калі ўсё робіцца ў меру.

Чатыры пятых прафесійных канцэртаў у абласных і раённых цэнтрах за год бываюць эстрадныя. Гітары з дапамогай узмацняльнай тэхнікі разам з трубой і барабанам упэўнена і назойліва прабіваюць сабе дарогу. Каб жа хаця да інтэрпрэтацыі твораў малога жанру эстраднікі падыходзілі падобна С. Рыхтэру, які лічыць творы малой формы самымі складанымі, бо перадаць вялікія пачуцці і думкі нейкімі шаснаццаццю тактамі вельмі цяжка, патрэбны высокі прафесіяналізм і вялікі талент.

Музыка ж, якая мае глыбокі змест, у абласных і раённых цэнтрах бывае вельмі рэдкім госцем, а што да харавога жанру, то ён у канцэртах займае зусім нязначнае месца. Колькі харавых шэдэўраў Палестрыны, Арланда Ласа, Баха, Моцарта, Бетховена, Рымскага-Корсакава, Шастаковіча, Свірыдава мы не можам паслухаць, не можам атрымаць велізарнага эстэтычнага задавальнення, спазнаць пачуцці і думкі перадавых людзей розных эпох. У выкананні якога калектыву можна пачуць «Рэквіем» Берліёза, «Поры года» Гайдна, араторыі Гендэля, кантаты і месы Баха? Калі што-небудзь і выконваецца, то хіба ў адным Мінску.

Прапаганда савецкай, рускай, беларускай, зарубежнай харавой класікі ў Беларусі ўскладзена толькі на адзін прафесійны калектыў — Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу. Безумоўна, сотні тамоў гэтай літаратуры фізічна не па сіле аднаму мастацкаму калектыву.

Сякую-такую работу ў гэтым напрамку вядуць хоры кансерваторыі і радыё, але ў гэтых калектываў свае задачы. Абслужыць шырокую аўдыторыю, тым больш перыферыйную, яны не маюць магчымасці. Слуханне ж па радыё і тэлебачанні ніяк не заменіць сустрэчы з жывымі выканаўцамі.

Часам здаецца, што прабелы ў эстэтыка-асветнай рабоце могуць запаўняць

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# ГЛЫБОКА РАЗУМЕЦЬ СУЧАСНІКА



Не так даўно мне давялося пабываць на новабудоўлях Віцебскай вобласці. Наведалі мы хімічны камбінат у Наваполацку, магутную электрастанцыю ў Новалукомлі. Гэта ў асноўным — стварэнні мінулай пяцігодкі. Такія гіганты індустрыі з'явіліся і ў іншых гарадах і раёнах нашай рэспублікі. Больш таго — з'явіліся і самыя гарады: новыя, вялікія, светлыя, ды на тых месцах, дзе раней ніколі нічога не было.

Відаць, кожнаму хочацца сказаць перш за ўсё аб тым, што бліжэй да яго душы, пра што ён больш ведае. У мяне заўсёды ў памяці мая Салігоршчына. Цяпер ужо ўсе кажуць — Салігоршчына, а раней гэта была Старобіншчына. Пра яе мала хто ведаў. А пра маю маленькую вёсачку дык амаль што і ніхто не ведаў, акрамя тамашніх людзей. Гэта было малапрыкметнае, глухаватае месца, аддаленае ад шасейных дарог, ад гарадоў. Бывала, нават даехаць да мае вёскі было справай нялёгкай, асабліва ранняй вясной або ўвосень.

Цяпер побач з маёй вёскай вырас вялікі і прыгожы горад Салігорск. І сама вёска стала ўжо далёка не той, ранейшай: у ёй усё змянілася да лепшага, яна стала амаль што прыгарадам.

Новы горад з'явіўся, вядома, не сам па сабе, не па звычайнаму геаграфічнаму размяшчэнню! Салігорск вырас каля тых месц, дзе былі выяўлены ў нетрах зямлі вялікія запасы калійнай солі. Хто мог думаць яшчэ нейкі дзесятак год таму назад, што пад нашымі старобінскімі пяскамі ды балотцамі тояцца такія скарбы!

І вось пачалі расці тут камбінаты хімічнай прамысловасці: адзін, другі, трэці! Пачалося будаўніцтва і чацвёртага камбіната.

Я сказаў, хоць вельмі коратка, толькі пра свой родны куток. А колькі можна было б назваць такіх, умоўна кажучы, куткоў па ўсёй нашай рэспубліцы, па ўсёй краіне?

Гэта пра тое, што ўжо ёсць, што ўжо створана нашымі людзьмі за мінулыя гады. А што прынясуць нам наступныя гады, наступная слаўная пяцігодка?! З'явяцца новыя гарады. І сёлы, новыя цуды нашай індустрыі, высокія ўраджаі, багатыя фермы! Яшчэ больш павысіцца культурны і матэрыяльны ўзровень жыцця савецкага чалавека. І ўсяго гэтага дасягнуць нашы савецкія людзі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, усё гэта створаць розум і рукі чалавечыя.

Вось тут і пачынае адольваць мяне чыста пісьменніцкі, грамадскі роздум, калі ўчытваешся ў Дырэктывы XXIV з'езда КПСС: ці дастаткова глыбока і ўсеабдымна мы, пісьменнікі, бачым і разумеем гэтага чалавека, нашага сучасніка, нястомнага змагара за пераўтварэнне ў жыццё вялікіх і велічных планаў нашай партыі? Ці не залішне далёка мы адыходзім у сваіх творах у мінулае нашага народа, дзе ўжо ўсё ўстаялася, набыло і сталую форму, і сталы змест, дзе не трэба асабліва ламаць галаву, як гэта паказаць, адлюстраваць у мастацкім творы. А вось сучасны чалавек, рабочы, калгаснік, інтэлігент, з яго складаным характарам, з яго новымі, перадавымі якасцямі, з яго багатым і самабытным духоўным светам — яшчэ амаль не трапляе ў поле зроку нашага пісьменніка. Пакуль што я не магу назваць ніводнага аб'ёмнага, высокамастацкага твора пра людзей сучаснай калгаснай вёскі. Наўрад ці можна сказаць, што ў нас ёсць іменна такія кнігі і пра рабочы клас.

Пераадолець гэта, запоўніць гэты вялікі прабел — адна з самых важных праблем нашай пісьменніцкай арганізацыі. Пра гэта, думаецца, і павінна ісці гаворка на чарговым пісьменніцкім з'ездзе.

Навум ПЕРКІН

# ГЭТА РАДАСЦЬ І ГОНАР



Перад тымі, хто яе чытае, наша літаратура амаль заўсёды адчувала свой неаплачаны доўг. Гэта і зразумела: так гаворыць у ёй яе сумленне, яе вернасць нехахіснаму, мы б сказалі — недатыкальнаму купалаўскаму дэвізу — «сэрца мільёнаў падслухаць біцця...».

Асабліва задумваецца літаратура над значэннем сваім у жыцці народа на этапах рашаючых здзяйсненняў, напярэдадні штурму новых вышынь гісторыі. Такі момант перажывае наша краіна якраз зараз, перад XXIV з'ездам нашай Партыі.

Чытаючы праект «Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады», літаратар не знойдзе там спецыяльна адрасаванага яму раздзела. Але гэта не таму, што літаратурная праца не паддаецца лічбоваму вымярэнню — абсалютна ўсё, выкладзенае ў Дырэктывах, непасрэдна датычыць яго, усё цалкам яго хвалюе і не можа не хваляваць.

Бясспрэчна, што і самі па сабе выразы накшталт: «узняць эфектыўнасць працы», «ажыццявіць далейшае ўсебаковае развіццё...» — гучаць заклікам да літаратараў — каб і яны дбалі пра ўсё гэта ў сваёй пісьменніцкай прафесіі. Але ж справа тут ідзе аб вельмі ёмістым, маштабным паняцці абавязку. Доўг можа быць аплачаны пісьменнікам толькі ў тым выпадку, калі ён па-сапраўднаму прасякнецца зместам тых чалавечых здзяйсненняў, якія стаяць за лічбамі, намёткамі, планавымі вызначэннямі. Такім чынам, «тэхналогія» літаратурнай працы па неабходнасці павінна падводзіцца пад вялікую меру мастацкага мыслення.

Нельга не прыгадаць тут словы Льва Талстога пра тое, як разнастайна-багаты — намнога багацей і разнастайней, чым у людзей з забяспечаных класаў — перажыванні працоўнага чалавека, звязаныя з самой яго працай, з яго барацьбой з прыродай, «з яго адносінамі да ўсіх эканамічных пытанняў не як да прадметаў мудравання ці фанабэрыі, а як да пытанняў жыцця...» («Што такое мастацтва»).

Здавалася б, лічбы, эканоміка, разважанні строгага розуму, — а як глыбока ўсё гэта ўрастае ў лёс чалавека, абарочваецца чалавеказнаўствам нават у такога падкрэслена-«духоўнага» пісьменніка, якім быў геніяльны Леў Талстой. Што ж гаварыць нам, сучаснікам планамерных пераўтварэнняў грамадства ў імя чалавека працы!

Дарэчы, у Дырэктывах ёсць выраз пра больш поўнае задавальненне духоўных патрэб народа, — а гэта, вядома, мае ўжо самае непасрэднае дачыненне да сферы літаратуры і мастацтва. І азначае такі заклік, апрача ўсяго іншага, зварот да таленту, гонару і сумлення пісьменнікаў: глыбей пранікаць у сутнасць такіх найважнейшых сацыяльных пераўтварэнняў, як навукова-тэхнічная рэвалюцыя, збліжэнне ўзроўню жыцця горада і вёскі, бачыць і раскрываць самыя значныя духоўныя працэсы, маральныя, этычныя, псіхалагічныя калізіі, якія непазбежны ў сучасным грамадстве, у нашу бурлівую эпоху гісторыі.

# ПОСПЕХ БЕЛАРУСКІХ КНІЖНІКАЎ

**По выніках Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва за IV квартал 1970 года калектыву Мінскага аблкнігагандлю (дырэктар А. Дашкевіч) прысуджаны Пераходны чырвоны сцяг Дзяржаўнага камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР і Цэнтральнага камітэта прафсаюза работнікаў культуры і першая грашовая прэмія.**

**У рэспубліканскім спаборніцтве выйшаў пераможцам па выніках работы за IV квартал 1970 года калектыў Магілёўскага аблкнігагандлю (дырэктар Н. Белісаў), якому прысуджаны Пераходны чырвоны сцяг Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры і першая грашовая прэмія. Другія грашовыя прэміі прысуджаны калектывам Гродзенскага бібліятэчнага калектара і кнігарні № 9 г. Полацка Віцебскага аблкнігагандлю.**

**Трэція прэміі атрымалі калектывы Брэсцкага бібліятэчнага калектара і кнігарня № 12 г. Мазыра.**

# АРХІТЭКТАРЫ РАЯЦЦА З БУДАЎНІКАМІ

Секцыя «Новыя будаўнічыя матэрыялы і канструкцыі» Саюза архітэктараў БССР правяла нараду, якая абмеркавала задачы, пастаўленыя праектам Дырэктыў XXIV з'езда КПСС у галіне будаўніцтва.

У нарадзе прынялі ўдзел работнікі прамысловасці будаўнічых матэрыялаў рэспублікі. З паведамленнямі выступілі намеснік міністра прамысловасці будаўнічых матэрыялаў БССР В. Більдзюкевіч, начальнік аддзела Беларускага ўпраўлення геалогіі У. Тарбееў, галоўны архітэктар эксперыментальна-канструктарскага бюро мэблі Э. Шуберт, дырэктар Мінскай шпалернай фабрыкі В. Осіпава і іншыя.

У Мінскім Доме архітэктараў была наладжана выстаўка будаўнічых матэрыялаў Беларусі.

## АБМЯРКОЎВАЕМ ДЫРЭКТЫВЫ XXIV З'ЕЗДА КПСС

**самадзейныя народныя харавыя капэлы. Гэта правільна, але толькі часткова. Перш за ўсё, мы не можам праводзіць усе рэпетыцыі з поўным складам, і таму вывучэнне аднаго твора займае ў тры-чатыры разы больш часу, чым трэба. Спевакі маюць вельмі розныя галасавыя і музычныя магчымасці, неаднолькавую музычна-тэарэтычную падрыхтоўку.**

**Калі гаварыць канкрэтна пра нашу капэлу, то многія перашкоды ўдалося пераадолець. Шляхам вельмі ўпартай працы мы падрыхтавалі поўную канцэртную праграму ў двух аддзяленнях. Яна някепска прымаецца слухачом. Мы паказалі праграму ў сваёй вобласці і ў Мінску. А што далей? Мы проста не можам не паехаць у іншыя вобласці і за межы рэспублікі, бо інакш аўчынка не варта вырабу. Значыць, Упраўленне культуры аблвыканкома, фінансавыя арганізацыі павінны знайсці магчымасць для такіх выездаў. Павінны ісці насустрач нам і кіраўнікі прадпрыемстваў, дзе працуюць артысты капэлы.**

**Прэтэнзіі на гастрольныя паездкі калектываў, якія ў поўнай творчай форме, зусім законныя. Бо інакш настане творчае ўвяданне, а мажліва і поўны распад калектыву. Таму варта ў бюджэце вобласці на новую пяцігодку прадугледзець выдаткі на гэтыя мэты.**

**Ёсць у нас і іншыя клопаты. Нягледзячы на магчымасць выконваць салідную праграму (у нашым рэпертуары каля трыццаці складаных твораў), пакуль што і нам не па сіле выконваць вялікія харавыя творы, асабліва палотны кантатна-аратарыяльнага жанру, запыленыя тамы якіх стаяць на паліцах. Даводзіцца толькі спачуваць шматмільённай публіцы, якая прагне пазнаёміцца з гэтымі творамі чалавечага генія. Для папулярызацыі драматургічнай літаратуры, якой значна менш, чым харавой, у кожным абласным цэнтры, акрамя сталіцы, ёсць дзяржаўныя драматычныя тэатры, шырокая сетка народных тэатраў, на іх працуе і кіно. А хто ў нас апрача Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы можа па-сапраўднаму прапагандаваць харавую музыку? Няма такіх калектываў. Выхаванцы Р. Шырмы пакуль што адзінокія.**

**Не, не варта ўсё ж верыць чуткам, што сёння людзі захапляюцца толькі эстрадай, што харавыя канцэрты не ў модзе. Народ любіць харавое мастацтва. У час канцэрта дырыжор проста фізічна адчувае за спіной затоенае дыханне слухачоў. А калі ёсць слухачы, значыць трэба павялічыць у рэспубліцы колькасць прафесійных акадэмічных хораў.**

**Можна было б пераняць некаторыя традыцыі братніх рэспублік — Украіны, Эстоніі, Латвіі, Літвы. Напрыклад, чаму б нам у кожным абласным цэнтры не мець узорны хор кіраўнікоў хораў? У гэтым калектыве, які адыгрываў бы ролю «метадычнага кабінета», павышалі б свой прафесійны ўзровень дырыжоры лепшых сельскіх і раённых хораў. У сябе дома яны маглі б у чарнавым выглядзе рыхтаваць харавыя партыі, а потым збірацца ў абласным цэнтры на рэпетыцыі. Ва ўсякім разе такому хору сур'ёзныя творы былі б па сіле.**

**І нарэшце, калі ставіць пытанне аб росце ў нашай рэспубліцы харавога прафесіяналізму, то трэба закрануць пытанне і пра нацыянальны рэпертуарны фонд. Дзейнасць беларускіх кампазітараў у гэтым напрамку пакідае жадаць лепшага. Занадта рэдка з'яўляюцца на свет апрацоўкі багатых у мастацкіх адносінах і глыбокіх па змесце беларускіх народных песень, а калі яны і выходзяць, дык іх цяжка адрозніць ад аўтарскіх твораў. Народная мелодыя часта прыглушаецца не па-народнаму складанай «гармоніяй», харавыя партыі становяцца блізкімі да інструментальных і г. д. Вельмі хацелася б, каб з'явіўся кампазітар — харавы дырыжор, бо харавая кампазіцыя патрабуе ведання хору, прыроды галасавога апарату, асаблівасцей харавой інструментоўкі. Калі не лічыць Ю. Семяняку і некаторых іншых кампазітараў, якія час ад часу папаўняюць беларускую харавую бібліятэку, усе астатнія чамусьці мала аддаюць увагі гэтаму, бадай, самаму дэмакратычнаму музычнаму жанру.**

**Ул. БАШКО,**
**мастацкі кіраўнік Магілёўскай народнай харавой капэлы.**

# ІМ МЕСЦА — НЕ Ў АРХІВАХ!

*«...развіваць сетку кінатэатраў і кінаперасовак... Звярнуць асаблівую ўвагу на ўдасканаленне сістэмы культурнага абслугоўвання насельніцтва...».*

**З праекта Дырэктыў.**

ПРА КІНО гавораць, што яно — мастацтва маладое. Так, кіно маладое ў параўнанні з іншымі відамі мастацтва. Але ў той жа час гэта даволі спелае мастацтва, калі азірнуцца і асэнсаваць створанае ім.

Створана многа, накоплены велізарныя маральныя каштоўнасці. Проста сорамна, недапушчальна карыстацца імі так, як гэта часта робіцца ў нас. Кіно мае шырокую аўдыторыю, вельмі хутка ўплывае на гледачоў і па праву павінна заняць вядучае месца ў выхаванні, асвеце, адукацыі.

Існуючая ж сістэма пракату фільмаў, на маю думку, мала спрыяе гэтаму. Звычайна бывае так. На студыі выпушчана карціна. Прайшла з поспехам на экранах, гледачы перажылі некалькі цудоўных імгненняў, навучыліся нечаму, задумаліся над тымі ці іншымі праблемамі, змешчаны рэцэнзіі ў друку і... карціна знікла з экрана. Толькі выпадковасць можа вярнуць карціну на экран якога-небудзь клуба або невялікага кінатэатра.

Мастацтва і ўсе мы нясём вялікія страты ад такога абыякавага стаўлення да створаных каштоўнасцей.

Цяжка, безумоўна, вырашыць праблему выкарыстання ўсяго, што накапіла кінематаграфія. Няма гатовых рэцэптаў. Відаць, неабходныя формы можна знайсці толькі ў выніку абмеркавання пытання ўсімі зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі. Апрача прафесіянальнай думкі трэба ўлічыць пажаданні гледача. Адно толькі зусім ясна: наспела неабходнасць палепшыць сістэму пракату. Нельга ператвараць лепшыя фільмы ў здабытак архіваў.

Неацэнную паслугу ў гэтай справе можа аказаць тэлебачанне. Яно мае вялікую аўдыторыю, яму не заўсёды хапае сваіх, спецыфічных тэлевізійных перадач і таму трэба шырэй уводзіць у тэлевізійныя праграмы папулярныя цыклы па гісторыі кіно. Часам, праўда, добрыя фільмы ранейшых гадоў і з'яўляюцца на тэлеэкране. Вялікім поспехам у гледачоў карыстаецца, напрыклад, «Кінапанарама». Але ў гэтым напрамку трэба больш праяўляць ініцыятывы, смеласці, мэтанакіраванасці і беларускаму тэлебачанню.

Многае могуць зрабіць нашы кінатэатры. Яны павінны цікавіцца не толькі выкананнем месячнага, квартальнага ці гадавога плана, але і вучыць гледача, прытым не так, як надумае той ці іншы дырэктар. Крытэрыі ў гэтай справе павінны быць больш істотныя. Прыйшоў час, каб кожны кінатэатр стаў цэнтрам, базай таго ці іншага кінаклуба. Напрыклад — клуб лепшых фільмаў, клуб гісторыі кіно, клуб рэвалюцыйных фільмаў, камедыйных, клуб кінападарожнікаў і г. д. У практыцы некаторых сацыялістычных краін ёсць добрыя вынікі такога вопыту, і няма прычын, каб гэты вопыт не пераняць нам.

Паўтараю яшчэ раз: наспела неабходнасць ставіць пытанне аб самай шырокай і сістэматызаванай кінаадукацыі, весці яе не эпізадычна, а пастаянна. І не абавязкова для такіх мэт прыстасоўваць вялікія кінатэатры. Паўторныя фільмы могуць ісці ў малых залах. Не трэба патрабаваць ад іх выгод эканамічных. Каштоўнасць іх паказу ў іншым, невымерна больш важным — у выхаванні чалавека.

**Валянціна РАХУБА.**

НАСУСТРАЧ XXIV З'ЕЗДУ КПСС



# МАРШРУТ У НАС АДЗІН

*РАСКАЗ МАШЫНІСТА-ІНСТРУКТАРА МІНСКАГА ЧЫГУНАЧНАГА ДЭПО, ДЭЛЕГАТА XXIV З'ЕЗДА КПСС АРКАДЗЯ АДАМАВІЧА ГРАКОВІЧА*

КАРЭСПАНДЭНТ, кажаце? Быў ужо. Праўда, не з газеты, з радыё. Раскажыце, просіць, пра які-небудзь небяспечны выпадак. А я яму — не было. Не было, разумееце, аварыйных сітуацый у маёй практыцы. Дык у гэтага карэспандэнта настрой сапсаваўся. «Як гэта,—кажа,—не было. Каб за дваццаць пяць гадоў работы ды ніводнага ЧП?» Дзівак-чалавек. Дрэнны той машыніст, у якога ЧП бываюць. Значыць нешта недагледзеў, нешта не заўважыў. А калі ты да работы з усёй адказнасцю, па-сур'ёзнаму—будзе заўсёды парадак.

Тады ён да мяне з другога боку. «Як вы чыгуначнікам сталі? Калі нарадзілася гэтая высакародная мара? Мо гэта ў вас сямейная традыцыя, мо ў вас дынастыя чыгуначнікаў?»

І не традыцыя, і не дынастыя. Я хлопец вясковы. З Яварoўшчыны. Мо чулі, ёсць такая вёска ў Смалявіцкім раёне? Бацька мой яшчэ ў трыццаць трэцім годзе памёр. Засталася мая маці з чатырма сынамі. Да самай вайны ў калгасе працавала. Пасля немцы прыйшлі. Старэйшы мой брат Валодзя ў канцы сорак другога падаўся ў партызаны. Там у нас вакол лясы, лясы і партызан было многа, партызанская зона. Ну, а ў студзені сорак чацвёртага наляцелі на нашу Яварoўшчыну карнікі. Я ў той дзень з раніцы ў суседнюю вёску да сваякоў пайшоў. А ўвечары, калі вярнуўся, дык на месцы хаты ўбачыў адзін закураны комін. Кінуўся да суседдзяў, а яны мне страшнае, што ні ў якім сне не прысніцца, расказваюць—нехта падказаў карнікам, што Валодзя ў партызанах, дык яны вывелі маці з двума хлопцамі, ды тут на двары і застрэлілі, а хату спалілі.

Пакуль прыйшла да нас Чырвоная Армія, туліўся я па сваяках ды суседзях. А пасля прыходу нашых падаўся ў Мінск. Хлопец я ўжо быў ладны, шаснаццаты пайшоў. Тут восенню сорак чацвёртага і паступіў у чыгуначнае вучылішча. Чаму, менавіта, сюды? Ды таму, што ў аб'яве прачытаў—даюць стыпендыю ды абмундзіраванне, ды харчаванне бясплатнае. Вось так.

Выпусцілі мяне праз два гады памочнікам машыніста. Пачалося маё, як у газетах пішуць, працоўнае юнацтва. Эге ж, сённяшняй моладзі лягчэй хлеб і да хлеба дастаецца. Зараз, гляджу, хлопец змену ад'ездзіць, а вечарам ў клуб бяжыць, на танцы. Дык на здароўе. Калі ж патанцаваць, як не ў васемнаццаць гадоў. А я пачну ўспамінаць свае васемнаццаць, дык, дальбог, акрамя паравознай топкі нічога і не ўспомню.

Вадзілі мы грузавыя цягнікі. З чым? Усё больш з будаўнічымі матэрыяламі—лесам, цэглай, цэментам. Хто яго ведае, мо гэта будыніна, дзе зараз з вамі гутарым, з той цэглы пабудавана, што мы некалі вазілі...

Што і казаць, цяжка даводзілася, Не, каб кінуць, і ў галаву не прыходзіла. Прыкіпеў я да чыгункі сэрцам. Рамантыка? Я мо тады і слова такога не чуў. Спадабалася, ды і ўсё.

Толькі разумеў, што аднаго чыгуначнага вучылішча мне малавата, так і будзеш памочнікам машыніста да сівых валасоў. У сорак дзевятым паступіў я ў Гомельскую школу машыністаў. А праз год у армію ўзялі. Там, у арміі, дзесяць класаў скончыў. Пасля арміі вярнуўся я ў школу. У пяцьдзесят пятым атрымаў, нарэшце, запаветны дыплом машыніста. Ды толькі не думайце, што мяне адразу падхапілі пад ручкі, маўляў, вось вам, Аркадзь Адамавіч, паравозік, будзь, калі ласка, гаспадаром. Ведаеце, колькі я яшчэ памочнікам машыніста працаваў? Пяць гадкоў. Пяць гадкоў яшчэ пакідаў вугалёк. Чаму? Вакансіі ўсё не было на машыніцкую пасаду.

У нас на чыгунцы з кадрамі строга. Тут дыплом—паўсправы. Тут вопыт, навык патрэбны. Ды вялікае пачуццё адказнасці. Тут, як таму сапёру, памыляцца не дазволена.

Неўзабаве стала да нас паступаць новая тэхніка. Паравозы на нафтавым паліве, пуцявая аўтаматыка розная. Помню, як у дэпо першыя цеплавозы прыбылі. Хадзілі мы вакол, языкамі ад захаплення цмокалі. Электрастанцыя на колах дый годзе. У кабіне чыста, утульна. Хоць ты пад гальштукам прыходзь на работу.

Вось тады падумалася мне, што мая сярэдняя адукацыя хутка і не «пацягне». Падаў я заяву на завочнае аддзяленне Гомельскага інстытута чыгуначнага транспарту. Не скажу, каб лёгка было вучыцца. Ад адной толькі вышэйшай матэматыкі галава пухла. Але ж неяк выдзюжыў. За ўсе шэсць гадоў ніводнага «хваста» не меў. У шэсцьдзесят чацвёртым годзе атрымаў дыплом інжынера-механіка цеплавознай гаспадаркі.

Я ў той час ужо машыністам самастойна працаваў. Спачатку на паравозе, а пасля перасеў на цеплавоз. А ў шэсцьдзесят сёмым пачаў пасажырскія цягнікі вадзіць. Ездзіў на Брэст, Оршу, Вільна. Прысвоілі мне званне машыніста першага класа.

Ну, а летась прапанавалі новую пасаду—машыніста-інструктара.

Абавязкі якія ў мяне зараз? Абавязкаў шмат. Навучаць трэба перадавым метадам працы, прымаць экзамены пры пераатэстацыі, абкатваць навічкоў...

Вунь учора абкатаў я новага машыніста Анатоля Леановіча. Немалады ўжо чалавек, за сорак, відаць. Шмат гадоў памочнікам машыніста працаваў. Праўда, адукацыі ў яго малавата, але ўпарты. Школу машыністаў скончыў і ў нас экзамен нядрэнна здаў. А ў нас у дэпо экзамен здаць, дальбог, цяжэй, чым у інстытуце дыплом абараніць. Са свайго вопыту ведаю...

Прынялі, значыць, мы цеплавоз. Паглядзеў я, як прычапіўся да цягніка. Нічога, акуратна. Паехалі. Зімой нашаму брату—чыгуначніку цяжэй. Хоць рэйкі—не шаша, галалёду не бывае, а ўсё ж не тое счапленне калёс і тармазы халадам не так адчувальныя, як трэба. Тут не пазяхай, калі не хочаш непрыемнасцей.

...Даехалі да месца добра. Праўда, трохі хваляваўся Леановіч, ды гэта натуральна. Яна, работа такая. Увесь у напружанні. Зараз хуткасці вунь якія. Бывае перагон, дзе поезд імчыць кіламетраў сто ў гадзіну. Ляціш і раптам бачыш, што недзе далёка наперадзе чалавек стаіць на рэйках. Адразу цябе гарачынёю ўсяго абдасць. Вось і думай, уключаць экстранае тармажэнне, ці не. Мо гэты чалавек праз хвіліну ўбок адыдзе. і табе яшчэ рукой памахае. Маўляў, прывет, машыністу. А ў таго машыніста за гэтыя хвіліны кашуля стала—хоць выкруці.

Раней усё гэта даводзілася перажы-

---

АКНО У ТВОРЧУЮ ЛАБАРАТОРЫЮ



Ул. КАРАТКЕВІЧ

# ЗАДУМА: УЗНІКНЕННЕ І ЎВАСАБЛЕННЕ

**Польскі вучоны Міраслаў Ахоцкі, які працуе над праблемамі літаратурнай творчасці, прыслаў ліст пісьменніку Уладзіміру Караткевічу. У лісце ён пісаў:**

**«Я быў вельмі ўсцешаны, калі некалькі месяцаў таму Ян Гушча, з якім мяне лучыць не толькі дружба, але і тое, што мы разам рэдагуем «Асновы», паказаў мне падборку беларускай паэзіі, а ў ёй Ваш цудоўны верш «Таўры». Спадзяюся, што нумар «Асноў» са сваім вершам Вы ўжо атрымалі.**

**Я якраз у рамках навуковай працы (дактарат) пішу кнігу пра нараджэнне літаратурнага твора. Пра тое, як нараджаецца твор у свядомасці пісьменніка. Якія фактары з акаляючай пазалітаратурнай рэальнасці робяць уплыў на фарміраванне верша, апавядання, рамана. І таму, што праца мая, як я ўжо сказаў, мае навуковы характар, мае філасофскія і сацыялагічныя абагульненні павінны абапірацца на выказванні пісьменнікаў адносна таго, як у іх, у дачыненні да канкрэтных твораў, праходзіў творчы працэс. У сваёй кнізе я буду цытаваць выказванні пісьменнікаў розных нацыянальнасцей. Мне асабліва важна і тое, каб была прадстаўлена таксама беларуская літаратура. Ці не маглі б вы напісаць мне пра тое, як узнікае верш у Вас? Я знаю, што Вы добра ведаеце польскую мову, але прашу Вас напісаць Ваш ліст па-беларуску, таму што ў сваёй працы я буду цытаваць выказванні пісьменнікаў на мове арыгінала і ў перакладзе».**

**Ул. Караткевіч адгукнуўся на просьбу польскага даследчыка. Рэдакцыя штотыднёвіка лічыць, што адказ пісьменніка будзе цікавы і для чытачоў. Таму прапануем яго вашай увазе. Ліст друкуецца з некаторымі скарачэннямі.**

ВЕЛЬМІ паважаны пане Ахоцкі!

Прабачце за тое, што не жадаючы гэтага, затрымаўся з адказам на Ваш ліст, які дужа ўсцешыў мяне. Я быў у раз'ездах, — у прыватнасці ў Міры. Думаю над лібрэта гераічнай оперы з XVII стагоддзя. А, значыць, трэба было капацца ў архівах, шукаць знаўцаў і г. д.

Цяпер паспрабую, як магу, адказаць на Вашы пытанні. І, дзеля самага пачатку, я хачу сказаць аб тым, што мы занадта мала ведаем чалавечую псіхіку, яе асаблівасці, тое, як яна мяняецца ад вонкавых абставін, спрыяльных ці неспрыяльных, мала, каб дакладна адказаць, якім чынам узнікла думка, ідэя, твор.

Словам, «таямніца гэтая велькая ёсць». Таму я дасылаю толькі свае назіранні, толькі тое, што прыблізна ведаю сам і нават тое, што чуў ад сяброў па пяру, не буду надта ўключаць. Каб быць пэўным.

Што сказаць аб паўставанні, аб узнікненні літаратурнага твора?

Перш за ўсё павінен быць адпаведны настрой. Яго ствараюць розныя рэчы. Пачуццё вялікага спакою, або, наадварот, нейкая падзея, што скалане цябе аж да глыбіні душы. Або нешта такое, што спалучае і тое і іншае. Мінулым летам, напрыклад, такі настрой нарадзіўся ў мяне на старажытным славянскім гарадзішчы Святая гара, над вёскай Гараднoе, на Століншчыне. Вакол балоты і мокрыя сонечныя лугі, а пасярод іх, над рэчачкай, гара з абсечанай верхавінай. Уся зарасла чорнымі ад старасці соснамі. На соснах вуллі ў выглядзе чалавечых фігур. Тут жа адна хата і руіны млына з колам, выкачаным на адхон. Перад хатай цвітуць касачы і пеўнікі.

Гэта ўжо гатовы верш. Аб ім можна забыць, але раптам ён сам усплыве, у самы неадпаведны момант.

А ўжо атрымаецца верш ці не — тут усё залежыць ад тысячы прычын, перш за ўсё, я лічу, ад асацыяцый, ад багацця іх, ад умення чалавека выхаваць іх у сябе і аперыраваць імі.

Часам наштурхоўвае на гэта нават кніга. Прычым, не толькі ў тым сэнсе, што вычытаны недзе дакументальны факт, які адразу нараджае цэлы рой ідэй, вобразаў, тыпаў, але і ў тым сэнсе, што, бывае, нейкая думка кнігі нараджае асацыяцыю «ад супрацьлеглага», асацыяцыю-пародыю або ўспамін. Ён абрастае другімі ўспамінамі і ўрэшце ператвараецца ў сваю супрацьлегласць, у рэч, якая мае самастойную каштоўнасць.

Не было выпадку, каб, перачытаўшы нашага Купалу, Багдановіча, некаторыя рэчы Чорнага, або, скажам, не менш мне, нам блізкіх і мілых Каханоўскага, Міцкевіча, Норвіда, Славацкага, Крашэўскага, Вейсенгофа, Струга, Тэтмаера, Ружэвіча, Пшыбася, Парандоўскага (імя ж ім—легіён, і я называю толькі першыя, што прыйшлі да галавы), каб не з'явіўся халодны і высокі настрой, калі ўсё ж звініць захапленнем, чыстай зайздрасцю і глыбокім незадавальненнем сабе ў дзённых, або нават у тыднёвых пакутах. Галава, душа, вусны нават будуць увесь час працаваць, хай падсвядома, ствараючы цэлае. Ты можаш на больш або меншы тэрмін забываць аб гэтым, але рашэнне ўсё адно прыйдзе, нават, бывае, у сне.

Гайдануў у сялянскай хаце пустую, бязгучную калыску і забыў. І толькі пасля ўсплыло: «Бязгучная гайдаецца калыска, як паміж небам і зямлёй ламі, на якія звісаў мох. Нібы пачвара нейкая на цябе насоўваецца.

А пайшоў далей — і раптам высокая паляна над морам, урвішчы, мора шырокае, аж да неба, густа-сіняе. Ранняя вясна. Паўсюль россыпы сініх горных гіяцынтаў.

І вось падумалася, што й тыя бачылі гэта, а цяпер мы не ведаем, хто яны былі, чым пакутвалі і радаваліся, не ведаем нават ніводнага слова з іхняй мовы, ніводнай песні. Але ж не зніклі яны як адзін, пакінулі ж яны дзяцей, хай пасля атурэчаных, абруселых ці яшчэ як. Тых, што пачалі гаварыць на гоцкай мове або сталі слугамі генуэзцаў на іхніх факторыях. Не мець нават памяці — жахлівы лёс. Песні — забытыя, аблічча, усё. Прайшла катастрофа і няма цэлай грамады. Ну, а каб зараз глабальная вайна і дайшлі б да варварства тыя, хто ацалеў? І нейкі вучоны эпохі вялікіх адкрыццяў у нейкім 3000 годзе раптам пасівеў бы або галаву зламіў над праблемай, чаму тубыльцы, што жывуць над ракой Ваал, у цяперашніх Нідэрландах, гавораць на адной мове з тубыльцамі з-пад ракі Вааль, у цяперашняй Паўдзённай Афрыцы.

Такі быў, прыблізна, ход думак.

...А пасля, праз даволі значны час, калі і думкі гэтыя былі схаваныя ў далёкія каморы памяці, усплыло нейкае ключавое слова, не памятаю зараз, якое дакладна, — ці не «на муры, што нязнанымі продкамі ўзведзены?» — нічым не звязанае ні з таўрамі, ні з Аю-дагам (бачыце, тут пайшло ўсё ж ад уражанняў, хаця і забытых, а ў вершы пра сон Адама ўвогуле ні ад чаго, ад радка пра калыску). І раптам пайшло і пайшло. І хаця там няма ні гіяцынтаў, ні іншага — гэта

труна...» А адсюль ужо два крокі да думак аб вайне, аб катастрофе, аб усёй нашай трагічнай гісторыі... аб Адаме, які бачыў усё гэта ў сне... і аб тым, што вялікую мужнасць трэба мець, каб ведаць, прадбачыць такое і ўсё ж пачаць шлях. Аб тым, што і мы жывем з такой вось штодзённай мужнасцю і што ў гэтым шмат высокага.

Вы хацелі ведаць, якім чынам узнік верш «Таўры». Пастараюся аднавіць гэты ўспамін. Некалькі год назад я пайшоў на Аю-даг. Адзін. Можа і не спяшаўся б, але прачытаў, што досыць многа дзён хадзіць на Мядзведзь-гару будзе нельга: будуць труціць з самалётаў шкоднікаў лесу.

За ўсю дарогу ніводнага чалавека. Скалы, сцежка, дрэвы.

А на верхавіне, як толькі дабраўся, старая, разбітая крэпасць таўраў.

Я іхнія сляды і дагэтуль не раз бачыў: мы здымалі фільм пад Кошкай-гарой, і там трапляліся каменныя скрыні іхніх магіл, зарослыя зямлёй. А тут уразіла. Замест муроў — валы з рассыпаных каменняў. Усё зарасло паўдзённым лесам, абвілося плюшчом. Ледзь відаць квадраты, рэшткі вежаў. І наперадзе самае страшнае дрэва, якое бачыў. Каравае, з кароткімі, як абрубкі, тоўстымі да неверагоднасці, пакручанымі галінамі. З дуп-

бою. Нешта, прыблізна, такое: «Бог ты мой, як умелі пісаць (або: як пішуць), чэрці! Ну вось, гэтыя часу не трацілі, столькі змаглі даць, а ты нават з невялікай сваёй здольнасцю лайдак» і г. д.

Пачуццё, падобнае на рэўнасць да жанчыны, калі мы пачынаем лезці са скуры і, часам, скакаць вышэй галавы.

Ну вось, настрой створаны, усё адно чым, матэрыял заўсёды пад рукой, бо ўсё жыццё ты толькі і рабіў, што жыў і збіраў убачанае і чутае. І тут толькі трэба берагчы гэты настрой, не расплюхаць яго і чакаць, пакуль цябе «панясе».

Пачынаецца гэта по-рознаму і заўсёды нечакана. Ад погляду на нешта, ад ценю, паху, які ўспомніў з дзяцінства, ад выпадковага слова з размовы праходжага пад ліхтаром. Раптам устае гатовы, заўсёды адкрышталізаваны радок. Ён можа быць нават гукам, але гукам таксама адзіна патрэбным. Таму, што ён заахвочвае рабіць далей, не дазваляе кінуць, абяцае, што гэтая, чарговая праца будзе добрай і патрэбнай табе, што яна можа ўзварушыць іншага.

Пасля гэтага гука або радка (а ён часта бывае ключавым) ты ўжо працы не кінеш, хаця б яна дасталася та-

# СЁННЯ, ЗАЎТРА, ШТОДЗЕНЬ

ШТОВЕЧАР нашы клубы, дамы і палацы культуры гасцінна адчыняюць дзверы. Штовечар на іх агеньчык ідзе і стары і малады з надзеяй, што тут ён добра адпачне ды яшчэ панясе дадому зарад бадзёрасці, душэўнага гарту.

Сёння лепшыя клубныя ўстановы рэспублікі высока нясуць годнасць актыўных памочнікаў мясцовых партыйных арганізацый, будуюць работу па гарачых слядах жыцця свайго прадпрыемства, калгаса, саўгаса, раёна, горада. Пра гэта ішла гаворка на семінарскіх занятках слухачоў курсаў дырэктараў раённых, гарадскіх і пасялковых дамоў культуры ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры. Тэма гаворкі — выкарыстанне новых форм масавай работы ў клубных установах Беларусі ў час падрыхтоўкі да XXIV з'езда партыі.

Абмен думкамі, вопытам быў карысны. Ён засведчыў, што подых жыцця ўладарна ўварваўся ў дзейнасць клубных устаноў, што канкрэтнасць, мэтанакіраванасць і творчая фантазія ў ажыццяўленні пастаўленай мэты вызначаюць сёння змест і формы работы многіх дамоў культуры. Імкненне да пошуку, да творчасці — стыль работы і маладых культармейцаў Веры Улас з Поразаўскага Дома культуры Свіслацкага раёна, Івана Барадуліна (Відзскі Дом культуры Браслаўскага раёна), Уладзіміра Шмакава з Бабруйскага гарадскога Дома культуры і ветэрана на ніве культуры — дырэктара Баранавіцкага гарадскога Дома культуры Марка Аграновіча, стаж работы якога вымерваецца двума дзесяцігоддзямі.

У Баранавічах знайшлі сталую прапіску такія масавыя формы работы, як светлавыя і сатырычныя газеты, выступленні агітбрыгады, прэм'еры народнага тэатра, прысвячэнні ў рабочыя, святы вуліц, вечары «Слава пераможцам спаборніцтва», «Твой першы пашпарт», урачыстыя рэгістрацыі шлюбаў і нованароджаных і многае іншае. Гэтыя мерапрыемствы нязменна збіраюць шырокую аўдыторыю.

Цікава праводзіцца серыя вечароў-рапартаў. Вось адзін з іх — вусны часопіс «Наш горад насустрач XXIV з'езду КПСС». Старонкі гэтага часопіса расказалі аб рабоце прадпрыемстваў напярэдадні з'езда партыі, пра будаўніцтва ў новай пяцігодцы, аб культурным жыцці горада.

Буйнейшае прадпрыемства ў горадзе — баваўняны камбінат. Тут працуе шмат цудоўных людзей. Яны, пераможцы перадз'ездаўскай працоўнай вахты, былі героямі вечара, які ад-




быўся нядаўна ў палацы. Кожны цэх камбіната здаваў кароткія працоўныя рапарты і кожны цэх даваў некалькі нумароў мастацкай самадзейнасці. Вечар усім спадабаўся.

А нядаўна ў Палацы культуры пачаў працаваць маладзёжны клуб «Равеснік». Пасяджэнні клуба збіраюць шматлікую аўдыторыю, іх трансліруе радыёвузел палаца па ўсіх фае і гасціных.

У чым незвычайны поспех «Равесніка»? Відаць, у яго навізне і тых задачах, якія ставіць клуб перад моладдзю. Яго дэвіз — «Быць на зямлі чалавекам». Мэта клуба — каб кожны быў хоць трошкі падобны на Ільіча. У плане работы — знаёмства з бывалымі і знатнымі людзьмі свайго горада і рэспублікі, з цікавымі прамысловымі і творчымі калектывамі.

У Высокаўскім Доме культуры, што на Брэстчыне, ужо два гады працуе маладзёжны клуб радыёаматараў «Эфір». Пра яго работу цікава расказаў дырэктар Дома культуры Юльян Акцябрскі.

А вось у Відзскім Доме культуры ў гэтыя дні праводзіцца цыкл лекцый «Наш горад ад з'езда да з'езда», ініцыятыўная група піша сцэнарый для агітбрыгады «Тачанка — відзаўчанка». Дырэктар Дома культуры Іван Барадулін гаварыў пра тое, што забяспечыла поспех вечару, прысвечанага камсамолу Беларусі. Многа працавалі над яго сцэнарыем. Шырока гучалі песні і музыка, паказваліся кадры з дакументальных фільмаў.

На семінарскіх занятках можна было пачуць расказ пра тое, як глыбока ўсхваляваў вечар-шанаванне перадавікоў мясцовага саўгаса ў Поразаўскім Доме культуры. Вера Улас працуе тут усяго год, але яна добра ўсвядоміла адну простую ісціну — прыглядайся да людзей, у іх будзённых справах шукай гераічнае і непаўторнае. На вечары жывёлаводам і механізатарам саўгаса падаравалі хлеб-соль, ім дырэкцыя саўгаса ўручыла каштоўныя падарункі. Пра сціплых, адданых працаўнікоў палёў і ферм гаварылі ў гэты вечар цёплыя, добрыя словы, ім прысвячалі лепшыя песні... А вясковыя людзі чулыя да дабра і ўмеюць быць удзячнымі за любоў і ласку. Цяпер гэтыя перадавікі ахвотна памагаюць Веры Улас у клубнай рабоце.

Гэтая думка вельмі правільная — ісці ад канкрэтнага, што людзі добра ведаюць і чым жывуць. Не адрывацца ад зямлі, ад тых задач, якія вырашае сёння партыя, народ. Так робіць і Яўгенія Марозава з Арэхаўскага Дома культуры Аршанскага раёна. Ёй, напрыклад, удаюцца вечары-партрэты. Што гэта такое? Жыве ў пасёлку настаўніца — сорак гадоў яна працавала ў школе. Усе яе ведаюць, усіх яна ведае. Але мала хто ўяўляў сабе, што Вера Парфір'еўна ваявала, што многія з яе былых вучняў сталі вучонымі, настаўнікамі, урачамі, спецыялістамі сельскай гаспадаркі. Вечар-партрэт раскрыў біяграфію гэтага сціплага чалавека. І хто ведае, магчыма нейкі факт, нейкая рыса характару з яе біяграфіі нагадае нашаму маладому сучасніку прыклад—з каго рабіць жыццё, што пераймаць і што рашуча адкінуць.

Культасветработа мае свае асаблівасці: адразу не відаць яе вынікаў, як скажам, у матэрыяльнай сферы. І тым не менш, рыхтуючы чарговае мерапрыемства, скажам, вечар ці дыспут, загадчык клуба перш за ўсё павінен сам добра ўсвядоміць яго мэту — дзеля чаго яны, што дадуць чалавеку, куды паклічуць. Тады не будуць людзі пакідаць клуб з пустымі, раўнадушнымі сэрцамі, у іх будзе радасць або гнеў, абурэнне або захапленне. Словам, раўнадушша, абыякавасць — непрымірымыя ворагі культасветработы.

Шырокі абмен вопытам на семінарскіх занятках яшчэ раз пацвердзіў даўно вядомую ісціну, што поспех справы вырашаюць ініцыятыва, творчы пошук, гарачыя сэрцы культармейцаў, улюбёных у сваю нялёгкую работу.

У гэты ж дзень курсанты Інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры сустрэліся з міністрам культуры БССР М. Мінковічам.

**Я. ДАНСКАЯ.**

# ТЭАТР—СПОРТ—ТЭАТР

*ПРАДСТАЎЛЕННЕ Ў ПАЛАЦЫ СПОРТУ*



«Антычная скульптура»—артысты цырка пад кіраўніцтвам заслужанага артыста АССР А. Магдасяна.



«Жывыя шахматы»—вучні Мінскага харэаграфічнага вучылішча.

Фота М. ХАДАСЕВІЧА.

ГЭТА БЫЛІ амаль трохгадзінныя «матчы» — свята спорту і мастацтва, у якім сустракаліся дзве «каманды»: пяць тысяч гледачоў Мінскага Палаца спорту і 600 акцёраў.

Была жывая скульптура — «бронзавыя» людзі, «у акаймаванні» якіх выконвалі фрагмент з балета «Спартак» народная артыстка БССР Н. Давідзенка і заслужаны артыст БССР Л. Чахоўскі. Быў спартыўны танец — свежы, малады, у выкананні групы навучэнцаў Мінскага харэаграфічнага вучылішча ў пастаноўцы С. Гехта. Былы лаўрэат Усерасійскага конкурсу чытальнікаў В. Сінайскі; групавыя нумары майстроў мастацкай гімнастыкі; народны артыст БССР В. Чарнабаеў; народны артыст УССР М. Вадзяны і заслужаны майстар спорту Ус. Баброў; гросмайстар І. Баляслаўскі і заслужаны майстар спорту К. Зварыкіна (яны сыгралі бліц-партыю «жывымі шахматамі»); ленінградцы — народная артыстка РСФСР Н. Кургапкіна і А. Паўлоўскі; чэмпіёны свету З. Вароніна, В. Карасёва, М. Варонін, С. Дзіямідаў... Былі ўрыўкі з дакументальных і мастацкіх фільмаў, ігравыя сцэнкі, і, нарэшце, маляўнічы фінал — «жывы Крэмль»...

Наогул, для таго, каб адчуць і ацаніць гэтае рэвю, яго трэба паглядзець. Упершыню ў краіне адбылося такое маштабнае спартыўна-тэатралізаванае прадстаўленне, і здарылася гэта ў Беларусі.

Шлях да гэтых трох святочных гадзін быў і доўгі, і не лёгкі. Як арганізацыйна, так і творча.

...На афішы значылася: «Рэжысёр - пастаноўшчык заслужаны трэнер БССР Р. Майзельс». За некалькі апошніх гадоў гэты вядомы спартсмен і трэнер «зрэжысіраваў» каля 10 тэатралізаваных адкрыццяў буйных спаборніцтваў, масавых выступленняў на стадыёнах. Усе яны выклікалі гарачае адабрэнне гледачоў. Вось і рашыўся на большае. І таксама — поспех.

Вядома, не ўсе нумары былі раўнацэнныя, не ўсё было такое арганічнае, як «бронзавыя» людзі і фрагмент са «Спартака», урывак з пудоўкінскай «Шахматнай ліхаманкі» і бліц-турнір «жывымі шахматамі». Але ж мы гаворым не аб прыватнасцях, а аб прынцыпе: будзе ў нас у Беларусі (тым больш — ён створаны!) тэатр спорту ці не? Патрэбны ён ці не патрэбны?

«Падключым» аўтарытэты.

«Наш час — час зліцця тэатра і спорту». Гэта Ю. Уласаў. Артыкул «Тэатр вялікага спорту» ў часопісе «Театр».

«Фізкультура і спорт, вядома, безумоўна з'яўляюцца **мастацтвам.** А калі гэта так, дык яны маюць права, як кожнае мастацтва, на выстаўкі і тэатр. Такі тэатр неабходны». Гэта вядомы харэограф К. Галейзоўскі. Артыкул «Спорт як мастацтва», зноў жа ў часопісе «Театр».

У першы дзень прадстаўлення ў антракце мы задалі два пытанні некаторым яго гледачам і ўдзельнікам:

1. Як вы ставіцеся да таго, што адбываецца на сцэне?

2. Ці ёсць, па-вашаму, у тэатра спорту будучыня?

Вось што нам адказалі.

**Заслужаны артыст БССР Л. Чахоўскі:**

«Гэта несумненна цікава. З задавальненнем прыму ўдзел у такіх прадстаўленнях у будучым...»

**Ваеннаслужачы Савецкай Арміі А. Шпілеўскі і яго жонка Ірына:**

«Гэта выдатна. Такая змена жанраў, імёнаў! Кіно і эстрада, цырк і опера, аперэта і творчы вечар, канферанс і масавыя выступленні, балет — проста цудоўна!»

**Народны артыст УССР М. Вадзяны:**

«Канечне, станоўча. У іншым выпадку я б не прыехаў: прыемна быць піянерам. Будучыня вялікая».

**Навуковы супрацоўнік Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР М. Навіцкая:**

«Як я стаўлюся? Са шкадаваннем думаю, што засталося толькі адно аддзяленне: не хачу, каб канчалася... Калі такія канцэрты не стануць «стацыянарнымі» — мінчане многа страцяць».

У заключэнне хочацца паўтарыць, што, напэўна, наспела пара ўжо замацаваць, афіцыяльна аформіць такую арганізацыю, як тэатр спартыўных прадстаўленняў. Час яму, гэтаму тэатру, з падзеі «разавай» стаць у нас у Беларусі падзеяй сапраўды стацыянарнай.

Трэба было бачыць рэакцыю пяцітысячнай залы, каб у гэтым яшчэ раз пераканацца.

**Н. ЛІСЯНСКІ.**

# ПРАПАНУЕ ФІРМА «МЕЛОДЫЯ»

Не так часта гучаць беларускія сімфанічныя творы мінулых гадоў на канцэртных эстрадах рэспублікі. Таму вялікую каштоўнасць уяўляюць грамзапісы, якія даюць нам магчымасць пастаянна вяртацца да любімых твораў лепшых кампазітараў.

Летась усесаюзная фірма «Мелодыя» запісала шэраг беларускіх сімфоній. Сярод іх—Трэцяя, Чацвёртая і Шостая Я. Цікоцкага. Выканаўцам першага твора быў Дзяржаўны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Віктара Дуброўскага. У гэтым запісе добра падкрэслены грамадзянскі пафас музыкі, прысвечанай 30-годдзю роднай рэспублікі. Чацвёртая сімфонія выканана тым жа калектывам пад кіраўніцтвам Барыса Афанасьева. Аркестр пераканаўча раскрыў лірызм і цеплыню вобразаў, рашучасць гучанняў фіналу. Інтэрпрэтатарам Шостай сімфоніі стаў Віталій Катаеў, які здолеў выразна перадаць драматургію музыкі.

Аматарам беларускай сімфанічнай літаратуры будзе таксама цікава пазнаёміцца з запісамі трох першых сімфоній Я. Глебава. Дырыжор Б. Афанасьеў чула «прачытаў» партытуру Першай сімфоніі, а Віталій Катаеў — дзвюх наступных. Хочацца падкрэсліць выдатны ансамбль аркестра і піяніста-саліста Эдуарда Міянсарава ў трэцім запісе.

Зусім нядаўна, у студзені гэтага года, у магазіны паступіла яшчэ адна вельмі цікавая пласцінка. На дыску «Гігант» запісана музыка балета «Альпійская балада» Я. Глебава. Выконваюць твор аркестр і хор тэатра оперы і балета БССР пад кіраўніцтвам Газіза Дугашава. Вельмі прыемна, што пасля доўгага перапынку (апошнім быў запіс танееўскай «Арэстэі») оперны аркестр зноў гучыць на дысках фірмы «Мелодыя». Разам з тым, на жаль, неабходна адзначыць, што тэхнічная якасць гэтага запісу не вельмі добрая.

Думаю, што выкажу агульную думку аматараў беларускай музыкі, калі нагадаю, што даўно чакаюць сваіх дыскаў сімфанічныя творы М. Аладава, А. Багатырова, а таксама лепшае з творчай спадчыны М. Чуркіна, А. Туранкова, Р. Пукста, А. Клумава, М. Крошнера.

Грамзапіс у нашы дні зрабіўся магутным фактарам эстэтычнага выхавання людзей. Усё лепшае, што напісана і пішацца ў галіне музыкі, трэба аддаваць народу не толькі ў канцэртных залах, але і ў грамзапісах.

**У. ЯФРЭМАЎ.**

НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОУКАХ

# АЛЕСЬ САЛАВЕЙ, ЯГО СЯБРЫ І ЯГО ВОРАГІ

*ПАЧАЛІСЯ ЗДЫМКІ ФІЛЬМА «РУДАБЕЛЬСКАЯ РЭСПУБЛІКА»*

ПЕРШЫЯ кадры будучага фільма зроблены... Сцэнарый па матывах аповесці С. Грахоўскага напісаў М. Фігуроўскі. Здымачную групу ўзначальвае Мікалай Калінін. Значныя ролі даручаны беларускім артыстам: Валянцін Белахвосцік будзе Максімам Усам, Павел Кармунін — Драпезам, Леанід Крук — Валодзькам, Ігар Камароў—Ляўковым, Анатоль Мазлоўскі—Малаковічам, Наталля Чамадурава — Марынай, Фёдар Шмакаў — Карнілавым. Цікавыя ролі будуць выконваць навучэнка Мінскага харэаграфічнага вучылішча Н. Трысветава, В. Ваянкоў, В. Баркоўскі.

Вобраз беларускага Чапаева—Аляксандра Салаўя даручана ўвасобіць на экране вядомаму артысту з Вільнюса Ю. Будрайцісу (папярэдняя яго роля—Ка-



За некалькі хвілін перад пачаткам здымкаў.



Ёсць першы кадр! Хоць у фільме ён можа трапіць і ў сярэдзіну...

Фота А. ВАЛЯВАЧА.

роль французскі ў фільме Р. Козінцава «Кароль Лір»). Жыццё гаротнага дзеда Цярэшкі пражыве на экране папулярны кінаакцёр Леанід Кміт.

У цітрах карціны глядач прачытае і імёны такіх вядомых артыстаў, як М. Грынько, В. Дваржэцкі, Ю. Каморны. У здымках прымуць таксама ўдзел артысты Гродзенскага драматычнага тэатра, жыхары Гродна і вёскі Прывалкі, рабочыя саўгаса «Падароск».

Здымачная група пабывала ў былой Рудабельцы (цяпер гарадскі пасёлак Акцябрскі), сустрэлася з удзельнікам тых падзей, Цімохам Каленікавічам Валодзькам, правобразам аднаго з герояў фільма. Весці здымкі ў сучасным пасёлку, у Бабруйску і раёне нельга: паўсюль тэлевізійныя антэны, шыферныя дахі, добра развітая лінія электраперадач. Трэба было шукаць старую саламяную Рудабелку. Аб'ездзілі Магілёўскую, Гомельскую вобласці і толькі пад Гродна знайшлі вёску Прывалкі, якая рэльефам вельмі нагадвае Рудабелку. Але ўсё роўна многае дабудоўваць даводзіцца...

У здымачнай групе зараз 35—40 чалавек. Гэта людзі самых розных прафесій, узростаў, густаў, звычак. У вольны час пільную тых, ад каго хочацца пачуць пра творчую працу групы.

— Мне шанцуе, — гаворыць мастак Юрый Альбіцкі.—Зноў гісторыка-рэвалюцыйны фільм. Папярэдні быў «Крушэнне імперыі». Люблю гэтую эпоху. Мне блізкая рамантыка твора. Толькі каб не страціць яе ў працэсе здымак... Хоць бы сёння!

А сёння на браме былога маёнтка, а зараз саўгаснага зернясховішча, аб'ява на фанеры: «Уваход забаронены!!! Ідуць кіназдымкі. Снег не таптаць». Але нягледзячы на грозную аб'яву, цікаўныя пачалі збірацца, калі яшчэ не развіднела. Першымі прытупалі дзяды ў кажухах. Разгаварыліся. Расказваюць пра пана, які калісьці жыў у маёнтку. Прозвішча яго ўспомнілі—Бохміц. І ўпраўляючага тутэйшага памятаюць.

У гэты час у парку паказаліся апранутыя і загрыміраваныя Грынько і Дваржэцкі. Пытаюся ў старых, ці такое адзенне паны тады насілі. Прыдзірліва ўглядаюцца, ківаюць: «Здаецца, такое, так. І выступаюць гэтак фанабэрыста, як трэба...».

Пачынаецца рэпетыцыя. Артыст Мікалай Грынько хоча свайго барона Урангеля акрэсліць выразней. Просіць Калініна: «Дайце мне такую сцэну, дзе б ён паказаў зубы». Рэжысёр не згодзен: «Ідзе толькі 1918 год. Урангель пакуль яшчэ не адважыўся выступіць супраць Савецкай улады». Доўга цягнецца рэпетыцыя...

І вось пры вялікім натоўпе рабочых саўгаса, старых, дашкольнікаў і тых хлопчыкаў і дзяўчынак, што ў гэты дзень не пабеглі да школы, і можа нават збеглі з урокаў, пачалі здымаць першыя кадры. Чуваць голас рэжысёра: «Увага! Падрыхтаваліся!». Па мікрафоне гэту каманду перадае ўсім Рыбчонак. Ля кінакамеры ў нязручнай паставе, забыўшыся на ўсё, замёр аператар Дзмітрый Зайцаў. Асістэнт узняў угару хлапушку, на якой крэйдай выведзена: «Рудабельская рэспубліка». Кадр 40. Дубль адзін».

Застрыкатала кінакамера. І пайшлі па паркавай сцяжынцы ўстрывожаныя барон і ўпраўляючы. Хутка рэўкомаўцы на чале з Салаўём дадуць такі славесны адпор Урангелю, што ён палічыць за лепшае непрыкметна знікнуць з маёнтка...

Першы дубль зняты. Так прынята—зараз хтосьці разаб'е талерку на шчасце... Не паспеў заўважыць, хто гэта зрабіў. Вясёлая валтузня, і ўсе чарапкі ўмомант расхоплены. Навокал бегае мастак Альбіцкі з лапатай—падкідае «свежы» снег, каб здавалася, што ён тут заўсёды ляжаў, утыкае ў яго галінкі, і вось ствараецца ўражанне, што з-пад снега дэкаратыўны кусцік вылазіць—мастаку ў кіно даводзіцца брацца не толькі за пэндзаль.

Здымаецца другі, трэці дубль. Аб'яўляецца перапынак. Кожны праводзіць яго па-свойму.

Юрый Паўлавіч раскладае ўбаку эцюднік і пачынае маляваць. Цікаўныя перабягаюць да яго. Натоўп яму зусім не перашкаджае. Наадварот, мастак увесь аддаўся сваёй справе, але адначасова паспявае расказаць, як гэта цяжка—славіць фарбамі кавалачак жыцця. І жартам перакінуцца паспявае. Гледачы, асабліва малыя, у вялікім захапленні ад мастака. Можа, заўтра каторы з іх асмеліцца і пакажа дасціпнаму дзядзьку ў акулярах свае першыя спробы алоўкам ці пэндзлем. І найдабрэйшы Юрый Паўлавіч не адкажа ў парадзе, наадварот—узрадуецца.

...Нешта людна, шумна стала ля канторы. Бягу туды. Адбываецца вось што. Мастак па касцюмах Ала Грыбава апранае рабочых саўгаса казакамі, а грымёр Рыгор Храпуцкі падбірае і прыклейвае кожнаму вусы. Потым «казакі» выходзяць на ганак, каб ісці да коней. І вось кожнага аднавяскоўцы сустракаюць грамовым выбухам рогату. Ад яго дзінькаюць канторскія шыбы і коні рвуцца з прывязі. Чуваць рэплікі: «Глядзі, здаецца Васіль Цішко! А вусы—як у майго ката. Пакажыся! Не, да Чапаева табе далёка!»

Увечары, таксама па традыцыі, група сабралася разам. Калінін віншуе ўсіх з першым здымачным днём.

— Мы знялі не шмат метраў,—кажа ён.—Але сёння ў групе быў дзелавы, дакладны рытм. Добры пачатак. Каб так трымаць. І каб быў снег...

Калі я ад'язджаў, надавалі мне запісак — перадаць на студыю, родным, сябрам. Калінін уручае ліст да Ул. Корш-Сабліна, кіраўніка аб'яднання мастацкіх фільмаў, гаворыць: «Тут пра тое, як прайшоў першы здымачны дзень». Разам са мной едзе адзін з асістэнтаў аператара Л. Лейбман. Яму ўручылі плёнку, знятую сёння. Яе трэба хутчэй здаць у фоталабараторыю студыі і прывезці назад для прагляду, ацэнкі. Усю дальнюю дарогу да Мінска мы па чарзе ахоўваем, прыціскаем да сябе бляшаныя скрынкі. У іх «першае слова», якое прамовіла экранная Рудабелка.

І. РЭЗНІК.

# Іван Осіпавіч АХРЭМЧЫК

Беларускае выяўленчае мастацтва панесла цяжкую ўтрату. 9 сакавіка 1971 года раптоўна памёр член КПСС, народны мастак БССР, прафесар Іван Осіпавіч Ахрэмчык.,

І. О. Ахрэмчык нарадзіўся ў 1903 годзе ў Мінску. Пасля заканчэння ў 1930 годзе Маскоўскага вышэйшага мастацка-тэхнічнага інстытута і да апошніх дзён свайго жыцця ўвесь яго яркі талент мастака служыў народу, развіццю беларускай савецкай культуры.

І. О. Ахрэмчыка, як сапраўднага вялікага мастака, заўсёды хвалявалі тэмы буйнога грамадскага гучання. Створаныя ім у 30-я гады творы «Уступленне Чырвонай Арміі ў Мінск ў 1920 годзе», «Устанаўленне Савецкай улады ў Гомелі», «Торф для «Асінбуда» і іншыя зрабілі вялікі ўплыў на развіццё беларускага жывапісу.

У гады Вялікай Айчыннай вайны І. О. Ахрэмчык прымае актыўны ўдзел у выпуску газеты «Раздушым фашысцкую гадзіну», супрацоўнічае ў часопісе «Партызанская дубінка», піша шэраг палотнаў на ваенна-патрыятычныя тэмы.

У пасляваенныя гады Іван Осіпавіч плённа працуе ў галіне партрэтнага, пейзажнага і манументальна-дэкаратыўнага жывапісу. Буйной з'явай у беларускім выяўленчым мастацтве з'явілася яго карціна «Абаронцы Брэсцкай крэпасці», якая раскрывае веліч і сілу духу савецкага чалавека ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Творчую дзейнасць І. О. Ахрэмчык спалучаў з вялікай педагагічнай работай, выхаваў цэлую плеяду беларускіх мастакоў. Да апошніх сваіх дзён ён загадваў кафедрай жывапісу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Актыўная і плённая была яго грамадская дзейнасць. З 1944 па 1948 год ён з'яўляўся старшынёй праўлення Саюза мастакоў БССР, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР II, III і IV скліканняў.

За заслугі ў развіцці савецкага выяўленчага мастацтва І. О. Ахрэмчык узнагароджан двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

Светлая памяць пра Івана Осіпавіча Ахрэмчыка, вялікага мастака, педагога, чулага і ўважлівага чалавека, назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**П. М. Машэраў, Ц. Я. Кісялёў, Л. Г. Кляцкоў, А. Т. Кузьмін, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, С. О. Прытыцкі, А. А. Смірноў, Ф. А. Сурганаў, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк, Л. П. Александроўская, З. І. Азгур, А. А. Бембель, Э. П. Герасімовіч, В. А. Грамыка, Я. А. Зайцаў, І. Ф. Клімаў, М. В. Кавалёў, У. У. Корш-Саблін, А. П. Марыкс, С. В. Марцэлеў, М. М. Мяшкоў, М. А. Мінковіч, Я. Д. Нікалаеў, С. І. Селіханаў, Н. Л. Сняжкова, М. Танк, В. К. Цвірко, Я. Г. Чамадураў, В. І. Шарапаў, Р. Р. Шырма, Ю. В. Шпіт.**

## МАСТАЦТВА ЗАСТАЕЦЦА З НАМІ

Пайшоў ад нас Іван Осіпавіч Ахрэмчык!..

Мастак арыгінальнага таленту, шчодрага сэрца, вялікі працаўнік...

Пайшоў назаўсёды!

Пайшоў, не дапісаўшы апошняй карціны, не скончыўшы заняткаў з вучнямі... Нечакана і бязлітасна выхапіла смерць з нашых радоў выдатнага мастака, няўрымслівага палеміста, непахіснага барацьбіта, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню народу, служэнню высокаму мастацтву сацыялістычнага рэалізму.

Яго нельга было не паважаць, бо з першага і да апошняга кроку свайго жыцця ён быў верны свайму крэда: мастацтва павінна быць жыццесцвярджальным, адлюстроўваць усю складанасць нашага часу, весці за сабой людзей, заклікаць іх на барацьбу за светлую будучыню.

Ён быў патрабавальны да калег. Яшчэ больш патрабавальны ён быў да сябе, да сваёй творчасці. Усе яго карціны сагрэты жарам па-юнацку гарачага сэрца, прасякнуты глыбокім філасофскім роздумам, напісаны з віртуознасцю майстра.

Да апошняга дня, да апошняй хвіліны свайго жыцця ён быў у гушчы падзей, поплеч з сябрамі, калегамі, вучнямі.

Ён пражыў вялікае жыццё і назаўсёды застанецца ў нашай памяці як сапраўдны мастак, выдатны чалавек.

**Н. ВОРАНАЎ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

Міністэрства культуры БССР, Саюз мастакоў БССР з глыбокім жалем паведамляюць аб заўчаснай смерці народнага мастака БССР, прафесара Ахрэмчыка Івана Осіпавіча і выказвае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага мастака БССР Івана Осіпавіча Ахрэмчыка і выказвае шчырае спачуванне сям'і, сябрам, усім блізкім нябожчыка.

## ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСУ НА ЛЕПШАЕ АПАВЯДАННЕ

Рэспубліканскі савет Беларускага таварыства аховы прыроды зацвердзіў рашэнне журы аб выніках конкурсу на лепшае дзіцячае апавяданне пра птушкі роднага краю.

Першае месца заняў вучань дзевятага класа Лісчанскай школы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці Мікалай Прыгодзіч. За апавяданне «Чорныя прыгажуны» ён адзначаны Дыпломам першай ступені, фотаапаратам і манаграфіяй «Птушкі Беларусі».

Дыпломамі другой ступені і каштоўнымі падарункамі ўзнагароджаны Мікалай Лявонаў (Лапацінская сярэдняя школа Гомельскай вобласці)—за апавяданне «Жаваранкі», Уладзіслаў Рубанаў (Слаўгарадская сярэдняя школа № 2 Магілёўскай вобласці)—за апавяданне «Цікавае птушаня» і Мікалай Ксёндаў (Рэчкаўская сярэдняя школа Веткаўскага раёна) — за апавяданне «Моцька».

Вучань дзесятага класа Дзераўнаўскай сярэдняй школы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці Станіслаў Ярашэвіч за апавяданне «Дапамога» і вучань сёмага класа Прыбараўскай сярэдняй школы Брэсцкага раёна Брэсцкай вобласці Іван Якубінскі за апавяданне «Лясны жаваранак» узнагароджаны Дыпломамі трэцяй ступені і каштоўнымі падарункамі.

Дыпломы і каштоўныя падарункі будуць уручаны пераможцам конкурсу ў час правядзення Дня птушак, а лепшыя апавяданні мяркуецца выдаць асобнай кніжкай.

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# І МУДРАСЦЬ, І ДОСЦІП

ГЭТАЙ ноччу хараша свеціць месячык-паўнічок. У яго мяккім святле бруіцца і паблісквае рэчка. На беразе, пад тоўстым сукаватым дрэвам, стаяць дзяўчаты: кідаюць у рэчку вянкі. Паплыве—значыць гэтым летам выйдзеш замуж, а патоне—не засмяецца табе шчасце, спазнаеш ты невясёлую долю дзяўчыны-пярэстаркі.

Вось такую карціну-абразок можна бачыць на вокладцы нядаўна выдадзенай хрэстаматыі па беларускім фальклоры. Відаць, што афармiцелька Л. Дубавіцкая нямала папрацавала над тым, каб малюнкам нагадаць чароўнасць беларускага фальклору, тыя яго карціны-вобразы, што азначаны жывым чалавечым клопатам, мудрасцю і досціпам народа-працаўніка. Варта перагартаць кніжку, каб пераканацца, што яна багата і на малюнкі і на ілюстрацыі. Іх больш за трыццаць. Яны не толькі цікава глядзяцца, але і адлюстроўваюць найбольш важныя ідэйна-эстэтычныя адзнакі вуснай народнай творчасці.

Складальнікі хрэстаматыі — І. Кабашнікаў, А. Ліс, А. Фядосік, І. Цішчанка — засяродзілі сваю ўвагу не толькі на падборы найбольш важных матэрыялаў вуснай народнай творчасці. Кніжка цікава і тымі сваімі старонкамі, дзе падаюцца кароткія звесткі пра спецыфіку таго ці іншага фальклорнага жанру.

Сапраўдная паэзія заўсёды вызначалася багаццем формы. Разгорнутыя метафары, параўнанні, змястоўныя інтанацыйна-рытмічныя ўтварэнні, асацыятыўная сімволіка, экспрэсіўна-вобразныя малюнкі—усё знойдзецца ў лепшых узорах вуснай народнай паэзіі, усё тут актыўна і ўчэпіста працуе на мастацкую задуму. Прыемна зазначыць, што К. Кабашнікаў, які піша пра асаблівасці вуснапаэтычнай творчасці, метадычна правільна ўлічыў якраз тыя мастацкія асаблівасці фальклору, якія неабходны іменна для таго, хто яшчэ толькі пачынае ўсвядомлена далучацца да хараства народнага слова.

У чароўным царстве вуснапаэтычнай мудрасці знойдзецца нямала твораў вялікай абліччальна-сатырычнай сілы, шырокага грамадска-філасофскага гучання. У свеце гэтай паэзіі лёгка дыхаюць грудзі, тут шмат пахаў і колераў самога жыцця. І можна прыемна нямець у здзіўленні перад тым недасягальным майстэрствам, з якім народ-паэт надточвае рэальны факт домыслам і фантазіяй, той фантазіяй, што даказвае і паказвае, выхоўвае і вучыць. Вучыць быць філосафам і паэтам жыцця, быць грамадзянінам, умець захапляцца чалавечай шчырасцю, едкім сарказмам «прастрэльваць» здраду і паўзучае падхалімства.

Думаецца, не памыліліся складальнікі хрэстаматыі і тады, калі палічылі неабходным падаць чытачу некаторыя чыста мастацкія рэчы, урыўкі з пасобных твораў беларускіх пісьменнікаў. І хоць гэтыя ўрыўкі пазбаўлены строга акадэмічных азначэнняў, затое яны вучаць уменню ўспрымаць хараство інтанацыйна-меладычнага багацця вуснапаэтычных твораў.

Наш далёкі продак умеў не толькі запрагацца ў мазолістыя ралы, жытам і аўсом ускалошваць ніву. Ён яшчэ ўмеў і хваляваццца, напружана хвалявацца, напружана і востра перажываць, радавацца веснавой зеляніне і першаму сакаўному каласочку. У гэтай бязмежнай радасці і клопатах пра нялёгкі кавалак хлеба нараджалася мастацтва чыстае, як чэрвеньскія росы, здаровае, як зямля, багатае, як восень. Таму перад складальнікамі хрэстаматыі стаяла нялёгкая задача: трэба было адсланць і выбраць з усёй вуснапаэтычнай творчасці такія ўзорныя тэксты, якія давалі б шырокую магчымасць студэнту, настаўніку і наогул чытачу пранікнуць у гісторыю сівой мінуўшчыны, у само мастацкае светаадчуванне нашага далёкага продка. І варта хоць бегла прагледзець тыя раздзелы хрэстаматыі, дзе змешчаны замовы, каляндарна-сямейная абрадавая паэзія, народныя казкі, —і можна адразу ж пераканацца, што складальнікі ў асноўным справіліся са сваёй задачай. Калі, напрыклад, мець на ўвазе, што ў ранейшых хрэстаматыях па беларускім фальклоры былі вельмі бедна прадстаўлены замовы, дык у гэтай кніжцы мы знаходзім іх значна больш (падборка І. Цішчанкі). Прычым якраз тых, што вызначаюцца інтэнсіўным метафарызмам, выключнай чыстатою мовы і на дзіва крылатай мастацкай фантазіяй. Вось адзін невялічкі прыклад: «Красна сонца і ясен свет, і з лунамі ясными, і звёздамі частымі, і з зорамі вогненнымі, і ранішняй расой і з вячэрняй, і сушу і мора асычаеш і маць сыру зямлю ўграваеш! І з вясенням цяплом і з летнім агнём і ўгрэй, упар зямлю, распусці зялёну траву па лясах, па канавах, па кустах. І сахрані ты маіх мілых жыватоў ад усякага ліхадзея! Даруй маім жыватам піцение і ядзенне, пакрый іх шоўкавай пелянной, а ліхадзея забі вогненнай стралой, агнем-пламенем» (Замова пры выгане скаціны ў поле).

Каляндарна-сямейная абрадавая паэзія шырока і, галоўнае, усебакова прадстаўлена ў новай хрэстаматыі. Народжаная ў эпоху паганства, каляндарна-сямейная абрадавая паэзія арганічна паядноўвае першароднасць пачуцця і тую чыстую, маладзенькую, заўсёды трошачкі наіўную ідэалізацыю, што хараша радуецца багатаму калядняму застоллю, услаўляе гаспадарскую клапатлівасць і нялёгкія здабыткі мазолістых рук земляроба. Учытайцеся, напрыклад, у зімовыя і веснавыя, летнія, жніўныя і восеньскія абрадавыя песні і вы адчуеце не толькі іх хараство, але зразумееце і тое, што ўдалася сама кампаноўка і падборка тэкстаў (А. Ліс).

Сапраўдная мастацкая мудрасць не ўмее і не хоча важнічаць і прыкідвацца, манернічаць і выпінацца. Пра гэта сведчаць шматлікія прымаўкі і прыказкі, змешчаныя ў хрэстаматыі.

Каштоўнасць і высокія мастацкія якасці беларускіх казак агульнавядомыя. Добра пададзены яны і ў хрэстаматыі.

Праўда, даводзіцца пашкадаваць, што ў новай кніжцы мы не знаходзім вядомай беларускай казкі ў запісе А. Сержпутоўскага «Іванка-Прастачок». Бо не будзе, здаецца, нацяжкі, калі сказаць, што ў такіх і падобных казках народ выступаў не толькі як пісьменнік, але і як вучоны, своеасаблівы філосаф і мастацтвазнаўца. Успомнім, напрыклад, як герой нагаданай казкі становіцца музыкай, той далікатнай і ўражлівай натурай, што мелодыяй дудкі ўмее данесці да чалавека сацыяльную праўду феадальнай мінуўшчыны: «Як заграе, дак і ўбачаць людзі, што вялікая крыўда на свеце, што адны пануюць, другія гаруюць; адны багацтву лічбы не маюць, другія з голаду падыхаюць». І такога музыку трэба было выхаваць і ўзгадаваць. Гэта і робяць казкавыя старцы: «Першы раз загралі—Іванку розум далі; другі раз загралі—у сэрца жаласці нагналі; трэці раз яны загралі—язык Іванку развязалі».

Таму і хацелася б спадзявацца, што ў паўторных выданнях хрэстаматыі можна будзе бачыць і гэтую казку ў запісе А. Сержпутоўскага.

Новая хрэстаматыя па беларускім фальклоры — кніга цікавая, патрэбная і ўмела складзеная. І яе, безумоўна, варта было б выдаваць большым тыражом, бо 2000 экземпляраў не могуць задаволіць нават студэнтаў філалагічных факультэтаў нашай рэспублікі.

**М. ЯНКОЎСКІ.**

---

«Беларускі фальклор. Хрэстаматыя». Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1970.

# ВЯЛІКІ ЭКРАН РЭСПУБЛІКІ

Выйшла ў свет «Гісторыя беларускага кіно», том другі (1945—1967).

З'яўленне сур'ёзнага гісторыка-крытычнага даследавання, якое разглядае шляхі развіцця беларускага кінамастацтва, дапамагае раскрыццю аднаго з важнейшых бакоў народнай сацыялістычнай культуры.

На наш погляд, пытанні, якія ўзнімаюць тут аўтары, больш складаныя за тыя, што стаялі перад імі ў рабоце над першым томам. Быць аб'ектыўным і ўдумлівым даследчыкам падзей, у якіх сам прымаў удзел як крытык і глядач, — больш адказна і цяжка. Умець суаднесці сваю асабістую ацэнку з сапраўднай грамадскай каштоўнасцю твора; вызначыць у напале страсцей, спрэчак яго месца ў сучасным і будучым кінематографе, яго сапраўдную каштоўнасць або нязначнасць, — згадзіцеся, нялёгка. Тут трэба і прафесіянальная пільнасць крытыка, і цвёрдая мастацкая і грамадзянская пазіцыі.

Пасляваенны перыяд станаўлення беларускага кінематографа не быў падвергнуты дэталёваму і глыбокаму даследаванню, і на гэты раз нашым кіназнаўцам давялося выступіць, так сказаць, у ролі першапраходцаў. Як і ў першай частцы, у аснову работы пакладзены храналагічны прынцып. Але ён спалучаецца з вылучэннем галоўных тэматычных напрамкаў і жанраў, якія ўзнікалі і развіваліся ў беларускім кінамастацтве.

**Натуральна, што, ствараючы «Гісторыю» нацыянальнага кінематографа, аўтары імкнуцца прасачыць яго гнасеалагічныя карэнні, ад якіх бярэ пачатак яго змест і яго своеасаблівасць. Узаемасувязь экрана і жыцця, адлюстраванне ў творчасці беларускіх майстроў агульных заканамернасцей развіцця кінамастацтва знаходзяць у другой частцы іх працы больш паслядоўнае раскрыццё. Аўтары здолелі паказаць асаблівасці станаўлення менавіта беларускага кінематографа. У большай ступені гэта ўдалося зрабіць у раздзелах, прысвечаных беларускай кінадакументалістыцы.**

Само жыццё паставіла нашу рэспубліку на пярэдні край вайны з фашызмам, і гэта адлюстравалася ў гераічным дакументальным кіналетапісе. Аўтарам «Гісторыі» ўдаецца прасачыць пошук нашых дакументалістаў, раскрыць асаблівасці сучаснага дакументальнага кіно рэспублікі — увагу да чалавека, імкненне да паглыбленага сацыяльнага даследавання, эмацыянальнага ўздзеяння на гледача, адмаўленне ад параднасці. Творчасць такіх вопытных работнікаў дакументальнага экрана, як І. Вейняровіч, У. Цяслюк, М. Бераў, В. Шаталаў, М. Бярозка, упершыню, бадай, разгледжана падрабязна і паслядоўна. Аўтары падкрэсліваюць пераемнасць пакаленняў, — гераічная тэма, пачатая старэйшымі таварышамі, працягнута ў работах В. Сукманава, С. Прошына, І. Калоўскага, В. Чацверыкова ў шасцідзесятыя гады. На жаль, апошні раздзел аб дакументальным кіно нашых дзён напісаны крыху паспешліва і блытана, хоць напрамак аналізу, наогул, правільны.

Аналіз здабыткаў і недахопаў беларускага мастацкага фільма дадзены з дастатковай шырынёй, але часам занадта многа ўвагі ўдзяляецца пераказу зместу слабых фільмаў. Так, гаворачы пра карціну «Сорак мінут да світання», можа, трэба было больш поўна абазначыць яе мастацкія і ідэйныя пралікі, не абмяжоўваючыся накіраваным пераказам. На наш погляд, няўдача гэтага фільма была ў пэўнай ступені «прынцыповай», характэрнай і завяршыла сабой сумную серыю пасрэдных карцін («Шчасце трэба берагчы», «Вясновыя навальніцы») у беларускім кінематографе. У далейшым мастацкая пазіцыя нашых майстроў экрана не дазваляла ім мірыцца з такім фальшам і няўпраўдай у пастаноўцы і вырашэнні важных тэм. Заканамерна вылучаючы гэтак жа, як і ў дакументальным кіно, тэму Вялікай Айчыннай вайны, тэму героікі, аўтары «Гісторыі» зусім справядліва выказваюць упэўненасць, што галоўны фільм пра народны подзвіг — наперадзе.

**Фільмы аб сучаснасці, аб праблемах нашых дзён — самыя цяжкія і для стварэння і для аналізу. Глыбінны паказ жыцця грамадства патрабуе велізарнага напружання сіл і майстэрства. Аўтары «Гісторыі беларускага кіно», натуральна, не маглі ахапіць усю складанасць праблем сучаснай кінематаграфіі — у той жа час яны імкнуцца аб'ектыўна і ўдумліва прааналізаваць пралікі ў практыцы беларускага кінамастацтва, каб дапамагчы майстрам нашага экрана. На жаль, у гісторыка-крытычным аглядзе гэтага раздзела адчуваецца іншы раз невыразнае стаўленне аўтараў да таго ці іншага напрамку, фільма, рэжысёра (напрыклад, у разборы фільмаў «Іду шукаць», «Я родам з дзяцінства»), перавага выкладання матэрыялу над аналізам. Будзем спадзявацца, што далейшая работа аўтараў у гэтым напрамку дасць нам прыклады больш смелай і шырокай крытычнай думкі.**

«Гісторыя беларускага кіно», створаная беларускімі мастацтвазнаўцамі, — сур'ёзны ўклад у даследаванне кінамастацтва сацыялістычнага рэалізму.

**Э. МІЛОВА.**

---

«Гісторыя беларускага кіно. 1945—1967». (Аўтары А. Красінскі, В. Нячай, В. Смаль, Г. Падбярэзскі, Г. Ратнікаў). Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ









Малюнкі А. Волкава да кнігі Міхася Скрыпкі «Пад смешнай вясёлкай», якая рыхтуецца выдавецтвам «Беларусь».

Павел

МІСЬКО





# СЯБРЫ

**У выдавецтве «Беларусь» выходзіць мая новая кніга для дзяцей «Зямля ў нас такая». У яе ўключаны аповесці «Чырвонае неба» і аповесць, што дала загаловак усёй кнізе.**

**Прапаную ўвазе чытачоў першы раздзел з аповесці «Зямля ў нас такая».**

## ГРЫШКА-ВЕРХАЛАЗ

Нашы хаты стаяць цераз вуліцу. Грыша Чаратун можа лёгка са свайго акна ў маё пускаць сонечных зайчыкаў. Хата ж Віці Хмурца стаіць побач, глухою сцяною да нашага агарода. Выскачыць Віця першы на вуліцу, свісне—і ўсім чуваць. А Грыша свістаць моцна не ўмее — нейкае «сю-ю, сю-ю!» атрымліваецца. Ён не саромеецца і пакрычаць: «Лёнька Лаўруська! Хмурэц!»

Лёня Лаўрушка — гэта я. Толькі Грыша не пацвельваецца, ён так гаворыць таму, што выбіў зуб.

Я спачатку не верыў, думаў—прыдурваецца. У дзеда Стахея, вунь, скора не застанецца спераду ніводнага зуба, а гаворыць усё чыста і хораша. Але Грыша стаў гэтак і ўрокі адказваць: «Вецер з даўніх цасоў на слузбе ў цалавека...»

У нашага географа і батаніка Вадзіма Мікаравіча, ён жа і класны кіраўнік, вельмі не прыкінешся. Я раз не ведаў, як бязртутны барометр называецца. «Круціцца, — кажу, — на языку, не магу ўспомніць». А ён: «Пакажы язык...».

— Лаўруська! Хмурэц!

Во, галёкае ўжо Чаратун...

Я адчыніў акно. Стаіць Грыша каля варот, рэжа складанчыкам дубец.

— Ну што? — пытаю.

— Скора ты?

— Іду!

Ухапіў у рот яечні, скавараду — у печ... Астатняе можна і на стале прыкрыць настольнікам —як маці мне пакідала...

Да Чаратуна падыходзіў ужо і Хмурэц. У руках — іржавая труба. Учора яго бацька рабіў тэлевізарную мачту, мабыць, застаўся кавалак.

— Ну і сто з яе будзе? — ківае Грыша на трубу.

— Яшчэ не прыдумаў. — Віця пазяхае. — Мабыць, пераспаў. Не даспіш ці пераспіш — хаўкаеш, як сабака...

— Чулі? — аб'яўляе Чаратун. — Пеця Гарохаў прапаў.

Мы глядзім Грышу ў рот, на выбіты зуб.

— Брашы-ы больш, — недаверліва цягне Віця.

— Не верась, дзівакі. Як карова языком злізала...

Няўдала выдумвае Грыша. Хай лепш пакіне гэты «хлеб» Хмурцу, той большы выдумшчык.

— Выпарыўся? У космас узляцеў? На заўтра ж ён піянерскі збор назначыў! — гавару я.

— Не будзе збора. Яго маці сёння раніцаю хвалілася маёй: схапілі недзе пуцёўку ў піянерскі лагер, «гарэла». Павёз бацька Пецю набірацца сіл.

Маці Грышы, цётка Фёкла, — даярка, Пецева — заатэхнік. Можа яны і сустракаліся на ферме. «Ну і Пеця! Ну і выкінуў штуку! Хоць бы прыбег ды сказаў: так і так, нявыкрутка...»

— Ну і чорт з ім! — сказаў Хмурэц і падзьмухаў у сваю трубу. Зашыпела, нібы паравоз пару пусціў. Вакол губ у яго пазначыўся руды, іржавы кружок.

— Абыдземся і без яго... Толькі і ведае хныкаць: «Ну што тут прыдумаеш у сяле? Ну што?!» — Грыша рашуча махнуў рукою:—Гайда верхалазаў глядзець!

— А як сёння пойдзем? Паўз могілкі ці на кладкі? — пытаецца Віця.

Паўз могілкі.— бліжэй да верхалазаў, па кладках — бліжэй да ямы на павароце Мяллянкі, дзе мы купаемся.

— Лепс цераз кладкі. Скупнемся... — гаворыць Грыша і крыху чырванее. Мо ўспамінае, што з ім было на тых могілках.

А мне ўсё роўна. Толькі трэба цяля перавязаць на свяжэйшае месца. Гэта мой абавязак, пра гэта я і заяўляю хлопцам катэгарычна.

— Нідзе не дзенецца тваё цялё...—Віця круціць у руках трубу, спрабуе дзьмухнуць з другога канца.

Хлопцы аднак пакорліва ідуць за мною, бліжэй да могілак. Там, паміж агародамі і могілкамі, на кліночку сухадольнага лугу навязваюць сваіх цялят калгаснікі. Дзед Стахей туды калгасных цялят не заганяе—цесна. Ён пасе іх на першай «карце» і на апошняй, каля Мяллянкі, там сушэй (увесь забалочаны луг парэзаны ў нас на «карты»).

Толькі я расхістаў жалезны прэнт, як Віця злаўчыўся і трубнуў у сваю дудку, бы дапатопны мастадонт. І тут сыпнула мне ў вочы зямлёю, шворан і ланцуг балюча касянулі па нагах.

Падымаюся і бачу: цяля, задраўшы хвост, імчыць проста на агароды, хлопцы — за ім. Вочы міжволі заплюшчыліся... Ну і дарогу ж выталачаць на градах! Ці не выскачыла ўжо якая цётка з кіем?

Бягу, кульгаючы, на помач.

Ногі цяляці грузнуць у раллі, фантанамі разлятаецца зямля. Грыша ловіць ланцуг, «едзе» жыватом па бураках.

— Кідай сваю іерыхонскую трубу!

Віця шпурляе «музычны інструмент» і таксама падчэпліваецца да ланцуга. Цяля стала, спалохана азірнула лаўцоў.

Выводзім яго з гародаў, зноў забіваем каменем прэнт на лужку, адсопваемся. Грыша спрабуе атрэсці са штаноў і кашулі бруд, я задзіраю штаны і лічу на нагах, у колькіх месцах ланцуг і прэнт зняслі скуру.

Хмурэц ідзе і азіраецца на зарослыя дрэвамі могілкі. На самым краёчку іх, над ямай, дзе бяруць на магілы жоўты пясок, стаіць высокая сасна з буслянкай.

— А я ведаю, колькі буслянят... Тры! — выпальвае Віця.

— Сказы ясцэ сатыры! — спрачаецца Грыша.

— Два! — крычу я.

— Тры! Я на бярэзіну лазіў, адтуль лічыў — усё чыста відаць, — не здаецца Хмурэц.

Якраз мо гэтак мы спрачаліся з месяц назад. Гусенічны трактар тады сам развозіў на лузе мачты электраліній. Іх падымалі трактарам «на папа», замацоўвалі на жалезабетонных сваях. Буслы ў той час наседжвалі яйкі, і Грыша ляпнуў, што залезе на сасну і палічыць яйкі ў гняздзе. Мы сказалі, што ён яшчэ «мала кашы еў». «Мала? Мала?! — закіпяціўся Грыша. — Новую леску з паплаўком і кручком—хочаш?» — «Хачу!» — кажу. «А калі залезу — аддасі свой ножык». Ударылі па руках, Віця «рассек» нашы рукі, «асвянціў».

Мабыць, вельмі хацелася Грышу выйграць мой нож...

Пахадзіў, задраўшы галаву, каля сасны, пахадзіў каля бярозы, зноў падышоў да сасны. Гладкі і тоўсты ствол у сасны, не ўхапіцца. Грыша зрабіў з папругі пятлю і адзеў яе на ступні. Мы зарагаталі: «Ну, ну... Надтачы!» Мы ведалі, што лезці на сасну і папружка не паможа.

Грыша папляваў на рукі, як стары, і палез... на бярэзіну!

Го, здзівіў... На бярозу і я, і Віця залазім без папругі. На ёй метраў праз тры—чатыры ужо тырчаць сухія сукі. Каб ён, такі спрытны, на сасну ўзабраўся...

Грыша адгадаў мае думкі:

— Будзем і на сасне!

Ага, дык вунь у яго які план: перабрацца на сасну па галінах. Голле ўверсе пераплялося з сасновым. Але ж якое яно тонкае!

— Грыша, не трэба, я табе і так ножык аддам! — крычу яму.

Грыша кінуў мне зверху — «Дурань!» — і асцярожна ступіў па галіне да сасны. Рукамі ён трымаўся за верхняе бярозавае вецце, яно звісала над ім, як вяровачкі.

У мяне забалела шыя... Раптам перасмяглі, зрабіліся шурпатымі губы. Мы баяліся з Віцем нават дыхаць: хату на хату паставіш — такая вышыня...

А Грыша ўсё ішоў... Хістаўся і ішоў...

Ужо можна пераступіць на галіну сасны, яна, здаецца, моцная. Грыша ступіў раз, другі... Узяўся зверху за сасновую лапку, зноў ступіў... Пачуўся трэск! Галінка засталася ў руцэ Грышы, ён захістаўся і...

Я не помню, ці крыкнуў тады Грыша, ці гэта закрычалі толькі мы з Віцем. З'ехалі па абрыве на пясок, куды зляцеў наш сябар...

Грыша ляжаў тварам уніз. У руцэ трымаў сасновую галінку...

Мы думалі, што Чаратун ужо мёртвы — варочаем яго, тузаем.

У Грышы з рота ішла кроў, ён не варушыўся...

— Грыша, хочаш ножык? Бяры ножык... — гаварыў я.

Хлопец маўчаў.

— А ну, сябры, разыдзіцеся! — пачуўся раптам мужчынскі голас.

Паднялі галовы... А-а, Валодзя Палікараў, манцёр з электраліній...

Ён скокнуў у яму, забразгаўшы ланцужкамі і зашчапкамі пояса.

— Ах ты, верхалаз, верхалаз... — прыгаварваў манцёр і слухаў сэрца Грышы, абмацваў рукі і ногі. Потым заціснуў яму нос... Грыша страпянуўся і расплюшчыў вочы. Спачатку азіраў нас няўцямна, потым сказаў:

— Забярэсь, Лёня, маю вуду...

Сеў і выплюнуў зуб.

— Не трэба, хай табе! — чамусьці шаптаў я. — Вазьмі лепш складанчык...

Грыша ўпарта круціў галавою: «Ты выйграў!».

— Ну, верхалаз, прызнавайся, дзе баліць?— Валодзя дастаў насоўку і выцер Грышу твар.

— Нідзе не баліць... — ён паспрабаваў устаць, але павяло ў бок. Валодзя падхапіў яго.

— Ну, ну, давай лепш так...— ён падняў Чаратуна на рукі. — Жартаваць будзем потым.

Ён панёс Грышу да самай вёскі. Чаратуну было кепска: збялеў, яму хацелася бляваць.

А мы з Віцем ішлі следам і ўсміхаліся, як дурні. Добра, што якраз ішоў міма Валодзя!.. Добра, што Грыша з'ехаў трохі па пяску, па абрыве! А што да зуба... Дык жа ён выбіўся толькі адзін! Пражыве Грыша і без яго.

Як убачыла цётка Фёкла — нясуць! — загаласіла, насустрач кінулася. Грыша адразу стаў «ірадам», потым «золатцам», потым «рыштантам»... «Хай-то бацька недзе сена сабакам косіць, дык яшчэ і ён хоча галавою налажыць», «утрубіць сябе», «жывою загнаць яе ў труну»...

Праляжаў хлопец у пасцелі цэлы тыдзень. Мы кожны дзень хадзілі з Віцем у адведкі, заглядваў і Валодзя. Тады я і падараваў Грышу свой ножык...

...Ляцім да Мяллянкі навыперадкі, канавы для нас — што ёсць, што няма, перамахваем адным духам. Скідаем адзенне на хаду, у ваду плюхаем з разгону.

Лепш за ўсіх плавае Грыша, ён і пад вадою можа прабыць даўжэй за нас, нават з расплюшчанымі вачыма. Я толькі раз паспрабаваў расплюшчыць і закаяўся: вочы балелі, усё роўна як запарушыў.

Ад ямкі-купальні да электраліній таксама бягом — каб сагрэцца.

Металічныя мачты, як Гуліверы-веліканы, пабраліся за рукі і крочаць аднекуль з поўдня, паўз могілкі і вёску, цераз балота, паўз суседнюю вёску Студзянец — у горад, туды, дзе будуецца хімічны камбінат.

Непадалёку ад мачтаў пасуцца цяляты дзеда Стахея. Сам ён сядзіць на беражку. Па другі бок рэчкі — такія ж цяляты і дзед Адам, пастух са Студзянца. Перагаворваюцца...

Шыбуем цераз чараду, распуджваем Стахеевых цялят, і ён грозіць нам палкаю.

А вось і мачты. Валодзя на самым версе, махае нам — «Прывітанне!» Мачты падобны на карункі, сплеценыя з жалязяк. Карабкаемся ўгору нібы па гіганцкай лесвіцы. Па чарзе ціснем Валодзю руку «на вышыні» і злазім назад. Не любіць Палікараў, калі мы пачынаем так забаўляцца.

Сядзім пад мачтаю і глядзім на Валодзю. Ён працуе каля падвешаных пацеркамі ізалятараў, напявае «Мы мантажнікі-вышыннікі». Знізу мы падпяваем яму, Грыша падсвістае — «сю-сю».

Потым Валодзя Палікараў сядзіць разам з намі, жуе свае бутэрброды і расказвае ўсялякія гісторыі пра вышыннікаў. Шырокім поясам Валодзі заматаўся Грыша. Але зашчапіць яго не можа — тонкі сам, трэба праколваць у брызенце і скуры спецыяльныя дзіркі.

— Смелы хлопец — Грыша, будзе вышыннікам, — гаворыць Палікараў. — Толькі ці варта на буслянках смеласць праяўляць? У нас быў адзін такі ў дзіцячым доме, любіў па грачыныя яйкі лазіць. Галаднавата было адразу пасля вайны... Разбіўся...

Манцёр гаворыць яшчэ, што верхалаз можа памыліцца ці забыцца толькі адзін раз, як мінёр на вайне. Пагэтаму кожны рух трэба разлічваць...

А я слухаў і ўсё-такі зайздросціў Грышу. Смелы ён хлопец!

## КОМІННЫХ СПРАЎ МАЙСТАР

Пра Віцьку таксама ёсць што расказаць. Хмурцоў бацька — Антон Пятровіч — муляр. Усе печы ў нашай Грабаўцы — яго работа. Ён і дом Гарохавым мураваў. А цяпер ужо два гады ездзіць у горад на хімічны камбінат.

Зараз, на канікулах, мы не бачым, калі ён едзе: спім. А як хадзілі ў школу, то кожную раніцу падбягалі да яго.

Дзядзька Антон мужчына мажны, валасы ў яго светлыя, а твар чырвоны, абсіветраны. Кожны раз, аглядаючы перад дарогаю матацыкл, ён шкадуе:

— От каб з каляскаю была мая машына, дык пасадзіў бы ўсіх, падкінуў да школы. А так — тэпайце...

Ён мог бы пасадзіць ззаду аднаго Віцю, «падкінуць». Нават двух... Але застанецца трэці, і ён не вязе нікога. За гэта мы паважаем дзядзьку Антона.

А раз ён так сказаў:

— Будзе лета, канікулы, дык зважу вас, бахуроў, пакажу, чаго мы там набудавалі. Памяняюся з адным хлопцам на матацыкл з каляскаю,

У першы ж дзень канікул мы прысталі да яго —ці не забыў свайго абяцання?

— Скора ўжо, скора... Водпуск вазьму і тады пракачу вас... — у Антона Пятровіча быў вінаваты выгляд.

Віця любіў гуляць з бацькавым інструментам з самага малку. Капаў у зямлі кельмай адмысловыя ямы, яны расшыраліся ўбакі і ўглыбкі, як гаршкі, злучаў іх падземнымі хадамі. А то труштчыў малатком цэглу, крэйду, сеяў «муку». Наставіць пад лапухамі бляшанак з-пад ваксы — і чырвоная мука, і аранжавая, і жоўтая, і зялёная, і белая. «Партызанская база» — гаворыць.

Аднаго году, не паспеў яшчэ і снег добра сысці, пачалі ганяць мой сіне-чырвоны мячык. Разбілі ўраз. Назаўтра Віця паклікаў нас зноў гуляць у футбол і кінуў пад ногі нейкі руды, калахматы. Абскуб, аказваецца, як курыцу, сваю карову — якраз ліняла. Калі шэрсць паліваць

# СВЯТА ФАНТАЗІІ

У ЭКСПАЗІЦЫІ выстаўкі творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — не проста маляўнічыя «ўстаўкі». Яны нясуць пэўную сэнсавую, ідэйную нагрузку. Многія пераклікаюцца тэматычна, ідэйна-эстэтычна з жывапісам, графікай, скульптурай. У гэтых творах відавочныя высокая культура формы, высокі ўзровень прафесійнага майстэрства, смелыя пошукі новага ў змесце.

Вырабы мастакоў славутага «Нёмана» — святочна-ўзнёслыя. Дэкаратыўныя наборы посуду, вазы — то масіўныя, то лёгкія. Архітэктоніка падкрэсліваецца не аднымі пластычнымі сродкамі, але і каларытам. Уражваюць свежасць задумы, свежасць фантазіі.

Вазы, наборы з каляровага крышталю С. Раудвеэ і Л. Мягковай адразу пазнаеш па кампазіцыі, па тэхналогіі, па эмацыянальна-вобразным ладзе. То яны ўнутрана дынамічныя, то мягкія і стрыманыя. У адных— тонкія танальныя пераходы, у другіх — звонкасць, чысціня колеру. Актыўна скарыстоўваюцца вялікія паверхні дымчатага і каляровага шкла. Яны то свабодныя, то спрэс пакрытыя алмазным граненнем.

Гармонія колераў, вытанчанасць сілуэтаў — у наборах К. Вакс. Пяшчотна сіні і чырвоны тоны тонка спалучаюцца з бясколерным шклом.

Шчыльныя масы манументальных па форме тоўстасценных ваз з шурпатаю паверхняю ўражваюць у творчасці В. Дзівінскай.

Удала спалучае дэкор і форму ў вазах «Узорчастая» і «Раніца» П. Арцёмаў з шклозавода імя Ф. Э. Дзяржынскага. Гэтыя вазы быццам выпраменьваюць святло з-пад алмазнага гранення.

Увогуле, у вырабах са шкла строга вызначана прызначэнне рэчы. І глядач адразу адчувае: ці перад ім твор чыста дэкаратыўнага характару, ці утылітарнага. Пры гэтым рэчы для побыту ў майстроў шкла таксама прыгожыя. А вось у керамістаў, мне здаецца, не ўсё раўнацэннае. Не заўсёды ясная пазіцыя тых мастакоў, чые творы — нешта сярэдняе між чыста дэкаратыўнымі і утылітарнымі.

Сярод лепшых твораў керамістаў на выстаўцы — выкананы М. Бяляевым партрэт дэлегаткі XVI з'езда ВЛКСМ З. Янчуковіч. Тут скарыстаны дэкаратыўныя ўласцівасці матэрыялу. Міжволі прыгадваеш і іншыя работы мастака — «Бярэзіна», «Мары», яшчэ ранейшыя—«Паляшук», «Палявік». Бачыш па іх, як мастак, паступова разгортваючы тэму, ішоў да выяўлення нацыянальнага ад вобразаў фальклорных да рэалістычнага вобраза нашай сучасніцы-камсамолкі.

Удачы керамістаў — ваза Т. Паражняк, шахматы «Русь» і кампазіцыя «Сонца» І. Куртава, пласціны «Рыбак», «Цырк» І. Курачыцкага, падсвечнікі А. Зіменкі, кампазіцыя «Конь-агонь» В. Абухава.

Вобразна, з фантазіяй вырашаны сасуд «Зубр» М. Шаўцовай. На мой погляд, не зашкодзіла б дадаць да яго і некалькі кубкаў.

Мне спадабаліся кампазіцыі Ул. Кузняцова «Птушка» і «Дзяўчына з пеўнем». Прыгожыя сілуэты, прыгожы колер. Лёгкі, графічны малюнак утварае своеасаблівы дэкор. Можа быць, дэкор гэты варта было б зрабіць больш актыўным.

Падабаецца гледачам дробная жанравая скульптура мазырскага майстра М. Пушкара: «Каханне», «Лесавічок», «Ганчар» і іншыя. Асабліва ўдаліся мастаку кампазіцыі «Май», «Красавік», «Снежань».

Творчай удачай Н. Гурэвіча можна лічыць кампазіцыю «Развітанне». Тут адчуваем творчую індывідуальнасць і сталае майстэрства мастака. І зусім незразумела яго дробная пластыка. Быццам бы і някепска, але не нова. Не з'яўляецца знаходкай і дробная пластыка Л. Лебедзева. Яго «Іванка», «Мудрасць», «Першы хлапец на вёсцы», «Трыо»—паўтарэнне раней бачанага. Тое ж датычыць «Беларускага трыо», «Бульбы», «Лянка» М. Балюка.

Амаль не прадстаўлена на выстаўцы ткацтва. Экспануюцца толькі два габелены: «Новабудоўлі» і «Калгасны двор» Ю. Гапака. Тут удалы вобразны лад кампазіцыі, каларыт. Выразны рытмічны малюнак спрыяе развіццю тэмы. Рэалістычная трактоўка паасобных элементаў, выяўленчых прыёмаў, графічнасць не замінаюць дэкаратыўнасці, маляўнічасці, уласцівым менавіта ткацтву.

Бедна прадстаўлена і разьба па дрэве. «Леў» Т. Бандалевіч, «Восень» Г. Пясецкага выкананы з фантазіяй, вобразна. Цікавая па задуме кампазіцыя «Залатое вяселле» Ул. Капцова. Аднак элементы натуралістычнага падыходу да вырашэння тэмы збядняюць твор.

Цікавая серыя дэкаратыўных талерак А. і П. Гапак «Вяселле». Тут адлюстраваны сцэны народнага вясельнага абрада — не толькі традыцыйнага, але і пераасэнсаванага па-сучаснаму: «У ЗАГСе», «Сустрэча маладых», «За сталом». Усюды—яркія колеры, кветкі ў манеры традыцыйнага народнага роспісу. Сапраўды музычная каларыстычная гама.

Радуе, што нашы мастакі ўсё больш актыўна скарыстоўваюць такі матэрыял, як метал, здаўна вядомы ў беларускім нацыянальным мастацтве. Паэтычныя кампазіцыі Ю. Любімава ў металічным дэкаратыўным блюдзе «Сонца», «Матылькі», «Птушкі», у пласціне «Начныя птушкі», у падсвечніку «Птушка-Ліра» працінае казачнасць. Скарыстанне каляровых эмаляў яшчэ больш узмацняе дэкаратыўнае гучанне гэтых работ.

У кампазіцыях В. Зубарава «Адпачынак» і «Праца» вабіць плаўнасць ліній, рух, сталае майстэрства.

Перыяд станаўлення прафесійнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў нашай рэспубліцы ўжо мінуў. Мастакі гэтага творчага цэху вядомы далёка за межамі рэспублікі. Цяпер секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва варта больш актыўна скіроўваць мастакоў на асваенне сучаснай тэматыкі.

**Ф. ВАЛАДЗЬКО.**

# СУЧАСНІЦЫ

ЖАНОЧУЮ натуру, бадай, ва ўсе часы мастакі пісалі, малявалі, ляпілі часцей, чым мужчынскую. Тлумачыцца гэта, мабыць, не толькі прыгажосцю і пластычнасцю жаночага твару і цела, але і адметнай узвышанасцю жаночай душы.

На гэтай выстаўцы маю ўвагу прыцягнулі карціны, графічныя лісты, скульптуры, прысвечаныя жанчынам. Вось палатно Раісы Кудрэвіч «Вясна. 1945 год». Гэтай назвай мастачка нібыта падкрэслівае, што задача, якую яна паставіла перад сабой, выходзіць за рамкі простага сюжэтнага расказу аб адным з эпізодаў мінулай вайны. Глядач успрымае работу не проста як паказ вясны ў прыродзе. Вясновае неба, зямля, якая вызвалілася ад снегу, першыя нясмелыя кветкі перадаюць нам адчуванне жыцця. Тое вострае адчуванне, якое юныя жанчыны-воіны не страцілі ў пекле вайны.

Сюжэтна пераклікаецца з карцінай Р. Кудрэвіч палатно А. Малішэўскага «Медсёстры». Але своеасаблівая манера і сваё бачанне жыцця гэтым мастаком вядуць да стварэння зусім іншых характараў, таксама жывых, верагодных, у якіх пераважаюць смутак і напружанне, што спадарожнічаюць нялёгкай і гуманнай прафесіі міласэрных сясцёр.

Няма на свеце нічога больш журботнага, чым вобраз маці, якая аплаквае дзіця. І мастакі часта выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць гэты сюжэт для перадачы настрою глыбокага смутку, высокага трагізму, безвыходнасці і незваротнасці страты, наколькі б ахвярнай яна ні была. Мастаку Ю. Зайцаву ў адным з лістоў серыі «Хатынь» удалося не толькі прачула паказаць такую трагедыю, але і ўкласці ў работу думку аб ненатуральнасці, несправядлівасці падобнай сітуацыі для жанчыны, якая перажыла сваіх дзяцей. Невыпадкова, вырашаючы алегарычны вобраз смуткуючай маці, аўтар робіць яе нібыта не жывой, а дзяцей, якіх яна бачыць унутраным поглядам,— жывымі.

Скульптар Г. Пясецкі свае работы «Восень» і «Мелодыя» таксама вырашае праз жаночыя вобразы. Удалая, на маю думку, «Восень». Выдатна знойдзены матэрыял — цёплае, жоўтае дрэва, якое асацыіруецца з жоўтым лісцем, гэтым трапяткім убраннем асенніх дрэў, асветленых цёплым яшчэ сонцам. Мяккае пластычнае вырашэнне жаночай галавы добра перадае думку мастака не проста аб завяданні, а аб сталасці, напружаным унутраным жыцці. «Мелодыя» ж «гучыць» халаднавата. Відаць, «вінаваты» матэрыял — светлы метал. Ён прадыктаваў аўтару і некаторую прасталінейнасць мастацкага вырашэння; мелодыя атрымалася немеладычнай.

Запомніліся гераіні карцін Л. Шчэмелева, таленавітага мастака, які шукае для сваіх палотнаў дакладныя псіхалагічныя вобразы. Складаны лёс яго гераінь надае ім знешнюю суровасць. Але за суровасцю гэтай прачытваюцца і пачуццё ўласнай годнасці, і ўнутраная сіла.

**І. БАСАВА.**

# ЖЫВЕ ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

ГЭТУЮ кнігу не складалі паэты-песеннікі. Яна нараджалася сама па сабе ў агні жорсткіх бітваў з ворагам, у паходах, ля партызанскіх кастроў, у зямлянках. І мне прыемна ўсведамляць, што і я з'яўляюся адным са шматлікіх яе аўтараў.

Цяпер, праз чвэрць стагоддзя пасля разгрому гітлераўскай Германіі, чытаючы зборнік «Лясныя песні», які нядаўна выпусціла выдавецтва «Беларусь», у маёй памяці зноў і зноў усплываюць незабыўныя падзеі, вобразы слаўных баявых сяброў, што аддалі за Радзіму самае дарагое — жыццё.

Гэта было ў 1942 годзе. З франтоў Айчыннай вайны ішлі трывожныя весткі: фашысцкія полчышчы рваліся да Волгі. А ў глыбокім тыле, на Палессі, партызаны выпрацоўвалі планы, як лепш дапамагчы Савецкай Арміі.

Камандаванне нашага атрада рашыла разграміць буйны нямецкі гарнізон ў мястэчку Пагост. З прыходам гітлераўцаў тут пачалі гаспадарыць бельгійскія памешчыкі. Яны адбіралі ў насельніцтва хлеб і жывёлу, жорстка здзекваліся з яго. Нарабаванае дабро было падрыхтавана да адпраўкі на фронт і ў Германію. Але народныя мсціўцы не дазволілі захопнікам ажыццявіць гэты зладзейскі намер.

6 гадзін працягваўся жорсткі бой. Асабліва вызначыўся ў ім камсамолец Іван Чуклай. Ён першым уварваўся ў цагляны будынак, абведзены траншэямі і калючым дротам. Адзін з гітлераўцаў кінуў у камсамольца гранату. Але Іван не разгубіўся, у адно імгненне схапіў яе, і праз некалькі секунд яна разарвалася сярод ворагаў. Кулямёт фашыстаў змоўк, партызаны хутка авалодалі ўмацаваннем. 70 акупантаў знайшлі сабе магілу ў Пагосце.

Бадзёрыя і радасныя вярталіся народныя мсціўцы з баявога задання. Уперадзе ішлі камісар брыгады Мікіта Іванавіч Бандаравец і камсамолец Іван Чуклай. Нечакана з кустоў паласнула кулямётная чарга. «Засада», — маланкава пранеслася ў галаве кожнага байца. А навокал — чыстае поле, ні ўзгорачка, ні лагчыны.

Чуклай убачыў, як упаў Бандаравец. «Паранены!» — прамільгнула думка. І ён хуценька падпоўз да камісара.

— Трымайцеся за мяне— вынесу, — ціха прашаптаў камсамолец.

Адстрэльваючыся, ён поўз пад свінцовым дажджом. Юнак адчуў, як штосьці апякло яго цела, і ногі адразу зрабіліся непаслухмянымі.

— Здавайся! — крычаць бандыты.

— А гэтага не хочаце? — І выбух заглушыў іх галасы.

Акрываўленай рукой ён дастаў з сумкі апошнюю гранату:

— Бліжэй, яшчэ бліжэй, гады!..

Атрымаўшы атэстат сталасці, васемнаццацігадовым юнаком прыйшоў Іван у першыя дні вайны ў партызанскі атрад Коржа. Ужо 28 чэрвеня 1941 года ён здзейсніў свой першы подзвіг: уварваўся ў падбіты нямецкі танк, прыкончыў вадзіцеля і яшчэ аднаго фашыста, зняў кулямёт і рацыю, узяў дакументы. Выключную храбрасць праявіў Чуклай 14 ліпеня, калі вынес з поля бою цяжка параненага камандзіра групы Сяргея Карнілава — мужа вядомай камуністкі Веры Харужай. Асабіста ім пушчаны пад адхон варожы бранявоезд і два эшалоны з тэхнікай і жывой сілай.

15 ліпеня 1942 года Івана Чуклая, сакратара міжраённага падпольнага камітэта камсамола, партыйная арганізацыя прыняла ў свае рады. Камандзір брыгады В. З. Корж паведаміў на сходзе, што Чуклай прадстаўлены да ўзнагароды ордэнам Леніна.

У гонар светлай памяці героя-камсамольца мы прысвоілі атраду яго імя. Кожны з нас імкнуўся быць падобным на Чуклая — імкнуўся быць такім жа мужным і смелым.

Па просьбе народных мсціўцаў мною ў ліпені 1943 года і была складзена песня пра Івана Чуклая:

То не гром грыміць над краем,  
То ад Піны да Арэсы  
Ходзіць слава пра Чуклая —  
Баявая наша песня.

Мы героя не забудзем.  
Край ад ворагаў ачысцім,  
Да канца фашыстаў будзем  
Біць, пакуль усіх не знішчым!

Хай яны не топчуць болей  
Нашы родныя палеткі!  
Мы нясём праз бітвы волю  
Ўсёй зямлі і міру кветкі.

На тым месцы, дзе загінуў юны герой, у 1959 годзе пачалося ўзвядзенне Салігорскага калійнага камбіната. Тады ж была арганізавана сустрэча двух пакаленняў. Былыя народныя мсціўцы расказалі маладым будаўнікам пра Чуклая. Яго імя было прысвоена лепшай брыгадзе і адной з першых вуліц горада.

Пра гэтую сустрэчу я таксама напісаў верш — «Наша песня», які быў надрукаваны ў абласной газеце «Мінская праўда». Хутка на маё імя пачалі прыходзіць пісьмы. У ходзе перапіскі ўдалося адшукаць маці Чуклая, якая да таго часу нічога не ведала пра свайго сына.

Амаль кожны год я прыязджаю ў брыгаду, якая носіць імя героя. Яе кіраўнік Леанід Якубаў — камуніст, член бюро партарганізацыі. Яго партрэт красуецца на Дошцы гонару. З гарачым юнацкім запалам працуюць будаўнікі.

Так, у надзейных руках знаходзіцца эстафета слаўнага патрыёта Радзімы. Як сімвал мужнасці і барацьбы жыве ў народзе партызанская лясная песня.

**Ул. ЯФІМОВІЧ,**  
**былы партызан атрада імя Івана Чуклая, рэдактар Камянецкай раённай газеты «Ленінец».**

---

— Не перабівай... Лётчыка заўтра хаваць будуць... Некаторыя рабочыя ўспомнілі пра той бой... Трох фрыцаў тады лётчык збіў... «Чайка» самалёт называўся—па маторы пазналі... І нумар матора прачыталі, толькі тата не запомніў...

— У дзеда Стахея сын таксама быў лётчыкам... На заходняй граніцы служыў...—успомніў я не раз чутае ад бацькі.

— Лёня...—Віця стаў дрыжаць, як ад холаду.—Лаўрушка ты, Лёнька... А што, калі той лётчык—дзедаў сын?

— Ну але, яшчэ што выдумай!

— А раптам! А раптам, а?! Давай заўтра махнём у горад на веласіпедах? Паглядзім, як лётчыка хаваць будуць... Самалёт паглядзім.

Хваляванне Віці перадалося і мне.

— А Грыша? У яго ж веласіпеда няма.

— Трохі я на сваім падвязу, трохі ты на бацькавым. Я ў бацькі на матацыкл прасіўся, дык не бярэ. Кажа, замінаць яму буду заўтра...

— Ну, добра!—ляпнуў Хмурцу па плячы і пайшоў спаць.

Але сну ў гэту ноч у мяне амаль не было. Я думаў, што недзе павінна ж быць запісана, на якім самалёце стаяў матор з тым прачытаным нумарам, хто на тым самалёце лятаў.

Нас чакала тайна...

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

АДБЫЛАСЯ прэм'ера ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры па п'есе Леаніда Жухавіцкага «Спыніцца, азірнуцца...». Сцэнічная рэдакцыя і пастаноўка Ю. Собалева, мастак В. Гараднякоў, музычнае афармленне Э. Катковіча.



На здымку — сцэна з новага спектакля. У ролі Георгія Каралёва артыст В. Барысаў (справа), Рыта — І. Хацяноўская, Юрка— Ф. Неваднічэнка.

НА ТЭМЫ МАРАЛІ

А. ЧАРНЯЎСКАЯ

# КВАДРАТУРА КРУГА

*У сям'і трагедыя. Хто вінаваты?*

«Гавараць, што людзі, якія доўга жывуць разам, становяцца падобнымі адзін на аднаго. Напэўна, так бывае толькі тады, калі ім удаецца злучыць не толькі лёс, але і свой унутраны свет.

Ёсць выдатная гравюра Гуна Кроліса «Масты». Двое працягваюць адзін аднаму рукі, сплятаюцца пальцы і ўтвараецца мост, што здаецца такім жа моцным, як і металічныя каркасы другога, сапраўднага моста, які відаць здалёку».

Гэта не літаратурная цытата. Гэта ўрывак з прамовы дзяржаўнага абвінаваўцы старшага саветніка юстыцыі Івана Антонавіча Малішэўскага.

Я цытую абвінаваўчую прамову таму, што мяне таксама хвалююць гэтыя праблемы. Як урач, я добра ведаю, што ад моцы гэтых жыццёвых мастоў часта залежыць здароўе і, магчыма, жыццё маіх пацыентаў.

Не буду гаварыць пра моцныя, здаровыя сем'і. Не варта, відаць, пачынаць размову і аб сем'ях, дзе нешта не ладзіцца і людзі недастаткова разумеюць адзін аднаго, таму што, на жаль, гэта бывае не так ужо рэдка, і я не ўпэўнена, што тут можа дапамагчы нейкае ўмяшанне.

Я часта думаю пра разбітыя сем'і, якія жывуць пад адным дахам. Мне здаецца, што гэта якраз той выпадак, калі трэба ўмешвацца, умешвацца ўпарта, не саромеючыся, не зважаючы на такія «ісціны», што «мілыя сварацца—толькі цешацца» і «паб'юцца—памірацца».

Праўда, умяшанне не заўсёды канчаецца ўдала, патрэбна шмат цярпення і настойлівасці, патрэбна вялікае жаданне памагчы пацярпеўшай асобе, якой часцей за ўсё бывае жанчына.

Мой першы вопыт тры гады назад закончыўся няўдачай якраз з-за недастатковай настойлівасці.

У мяне ёсць пацыентка—Раіса Волкава, хударлявая трыццацігадовая жанчына з чорнымі сумнымі вачыма. У яе п'яніца муж, двое дзяцей. Шмат гадоў яна хварэе на язву страўніка. Вось ужо тры гады я спрабую пераканаць яе лячыцца—і ўсё дарэмна. «Вы, доктар, не выклікайце мяне. Якая карысць, што будуць калоць гэтыя вітаміны, калі мне есці няма чаго».

— Але, Рая, вы ж нядрэнна зарабляеце. І муж ваш на заводзе працуе. Чаму ж няма чаго?

— А я ні яго, ні сваіх грошай не бачу. Усё прапівае. Я ўжо прывыкла, грошай мне не шкада, толькі б не біў. Дык жа б'ецца кожны дзень. Што карысці, вы мне цяпер уколы прызначыце, а ён увечары паб'е мяне, што не ўстану.

Тады я яшчэ толькі пачынала працаваць цэхавым урачом. Пайшлі мы з ёю ў заводскі камітэт, запрасілі намесніка дырэктара завода, майстра цэха, у якім працуе Волкаў, яго самога. Вялізны хлапец, плечы метровыя. Жонка перад ім—быліначка. Страшна падумаць, як можна ўдарыць такой ручышчай. Гутаркі не было. Быў доўгі-доўгі маналог Волкава, у якім ён гучна і, я б сказала, прафесійна лаяў жонку, старшыню заўкома, шасцідзесяцігадовага намесніка дырэктара і мяне, хоць мы з ім сустрэліся ўпершыню.

Асноўная тэма маналогу: заб'ю і адказваць не буду. У яго, бачыце, была калісьці траўма чэрапа, ён цяпер нервовы. Я ведаю многіх хворых, якія перанеслі сатрасенне мозгу. Яны псіхічна нармальныя людзі і за свае ўчынкі адказваюць. А вось Волкаў не адказвае—нервовы. Калі ён выйшаў, вядома ж, ляпнуўшы дзвярыма—аж вокны зазвінелі—мы некалькі хвілін сядзелі моўчкі.

Потым я запытала ў заводскага начальства: «Дык што ж вы будзеце з ім рабіць?»—упэўненая, што якія-небудзь адміністрацыйныя спагнанні яго напэўна чакаюць. Аказваецца, зрабіць нічога нельга. На рабоце Волкаў не п'е, нормы перавыконвае і ў цэху пакуль яшчэ нікога не біў. А наогул ж яму ў цэху біцца, там жа могуць здачы даць. Яму гэтай забавы дома хапае.

На другі дзень Рая прыйшла да мяне ў кабінет з новымі сінякамі. І не дзіўна, што вялікай удзячнасці яна да мяне не адчувала. Вельмі ўжо цяжка абышліся ёй мае добрыя намеры.

Цяпер, праз некалькі гадоў пасля гэтай гісторыі, я пытаю сябе, чаму мы тады так лёгка адступіліся. Ну, добра, няма закона, паводле якога яго можна звольніць з завода (ды і не трэба гэта—будзе прапіваць жончыны); нельга ўздзейнічаць іншымі адміністрацыйнымі мерамі (ён на рабоце ўзорна-паказальны). Але ў міліцыю мы звярнуцца павінны былі. Чаму ж не зрабілі гэтага? Ды неяк у галаву не прыйшло.

А вось другая мая пацыентка, выхавацельніца дзіцячага сада Таня Смірнова. Жанчына, у якой цяжкі парок сэрца, хранічны нефрыт і язва страўніка. Ёй 33 гады. Яна вельмі многа працуе, таму што ёй цяжка гадаваць сваю васьмігадовую дзяўчынку. Калі яна захварэла на запаленне лёгкіх, не магла пакласці яе ў бальніцу—яна баялася пакінуць дзіця дома. Лячэнне было прызначана хатняе. Увечары, калі яна ляжала з тэмпературай 39, з'явіўся п'яны муж. Першае, што ён зрабіў, гэта выкінуў у акно ўсе лекі, а потым пачаў біць жонку чаравікам, прыгаворваючы: «Хутчэй здохнеш»!

Таня, ратуючыся, басаногі кінулася на вуліцу, да суседкі (гэта было позняй восенню). У бальніцу яе даставілі непрытомную. На шчасце, ачуняла. Але і пасля, далечваючыся дома, яна хавала ад мужа лекі, бо ён, як заняты, выкідваў усё, што траплялася пад руку.

Мяне здзівіў спакой, з якім хворая расказала сваю жудасную гісторыю. Яна паглядзела на мяне, як на маленькае неразумнае дзіця, калі я, відаць, з нейкай наіўнасцю, спытала:

— Таня, як жа можна з ім жыць? Дзе ж ваша гордасць, самалюбства?

— Гордасць, самалюбства? Ды пра што вы, доктар! Я забыла, што гэта такое. Вось ужо больш чым дзесяць гадоў мне толькі ў галаве: каб не біў, каб не спалохаў дзіця, каб самой не стаць калекай.

— Чаму ж вы не пойдзеце ў міліцыю?

— Хадзіла, прасіла. Прыйшоў участковы, яны з маім мужам даўнія сябры... Паўшчуваў крыху—от і ўсёй дапамогі.

Я ўявіла сабе гэту сцэну. Як у дрэнным апавяданні: душэўная размова з участковым міліцыянерам, пасля якой герой выпраўляецца. На жаль, у жыцці такія «героі» выпраўляюцца не так лёгка. Муж б'е Таню па-ранейшаму. Дык няўжо ж няма выйсця? Можа развод?

Супрацоўніца нашай палікліннікі, гісторыя якой аналагічная, сказала мне так:

— Ну што карысці дзяліць кватэру? Па-першае, ён ні за што на гэта не згаджаецца. Кажа, кватэра мая, ідзі куды хочаш. А мне пайсці няма куды, у мяне нікога няма, расла ў дзіцячым доме. Падзяліць праз суд і застацца жыць у адной кватэры? Нічога гэта не зменіць. Яшчэ больш злосці. На развод таксама не згаджаецца. Яму ж не будзе з каго здзекавацца. У лепшым выпадку, калі суд падзеліць і размяняе кватэру, ён усё роўна ў Мінску застанецца. Як ні хавайся, як ні замыкайся, усё роўна знойдзе. Яшчэ горш—на рабоце ці на вуліцы пабіць можа. У міліцыю неяк званіла. Спыталі: «Вы разведзены?» Не. «Дык у нас іншых спраў многа, няма калі вашы сямейныя сваркі разглядаць». Аднаго разу сама пайшла да іх. Пытаюць: «Суседзі пацвердзяць, што ён вас б'е?» А суседзі яго як агню баяцца. На лесвіцы сустракаюцца—убок кідаюцца. Не магу я з ім разводзіцца. Сказаў, што заб'е. Ён за мной і так з нажом праз дзень ганяецца. Няма мне куды падзецца. Баюся яго. І дзяцей баюся з ім пакідаць. Адзін раз пакінула сына, дык ён цэлы дзень есці не даваў. А калі Міша ўзяў кавалак хлеба, дык вырваў.

І сапраўды, яна ў рэгістратуры працуе, а дзеці з ёй сядзяць. Міша і ўрокі там робіць.

Так, становішча ў яе сапраўды безвыходнае. Яна баіцца, што муж заб'е. Потым, у літаральным значэнні гэтага слова—фізічна. Чалавек многія гады жыве пад страхам смерці. Пачуўшы гэту фразу, усякі чалавек, які жыве ў нармальных умовах, скажа:

— Ды ну, глупства, такога не бывае.

Не спяшайцеся з вывадамі. Бывае.

Пра гэтыя выпадкі цяжка пісаць, яны настолькі жахлівыя, што здаюцца неправдападобнымі. І тым не менш, я б сказала, што яны не зусім выпадковыя, бо калі ўзнікае сітуацыя — патэнцыяльны злачынца, які разгульвае на свабодзе, плюс бяздзейная міліцыя і раўнадушная грамадскасць — жыццёвая трагедыя можа закончыцца смерцю, як гэта было з настаўніцай Вольгай Пятроўнай Васіленка ў вёсцы Гоцк у 1968 годзе.

29 студзеня днём, на ўроку, п'яніца-муж на вачах у 25 вучняў забіў нажом маладую настаўніцу, маці трох дзяцей. Некалькі гадоў пражыла Вольга Пятроўна са сваім мужам—настаўнікам у вёсцы Гоцк. Бясконцыя пабоі, п'яныя скандалы, здзекі. Усё гэта на вачах у суседзяў, таварышаў па рабоце (абое працавалі ў адной школе). Шмат разоў пагражаў Васіленка сваёй жонцы забойствам. Ратуючыся, начавала жанчына з дзецьмі ў суседзяў.

У той жахлівы дзень, 29 студзеня, п'яны, раз'юшаны Васіленка ўварваўся ў клас з нажом. Перад следчым прадсталі 25 непасрэдных сведкаў драмы, 25 дзяцей—вучняў Вольгі Пятроўны, якія бачылі і перажылі ўвесь гэты жах з пачатку і да канца. Акрамя таго, былі яшчэ дзве непасрэдныя ўдзельніцы трагедыі: дочкі Надзя і Зіна. Забіўшы жонку, Васіленка прыйшоў дамоў і сказаў ім:

— Ідзіце, развітайцеся з маці, я яе забіў.

Цяжка, амаль немагчыма ўсё гэта ўявіць. Аднак, гэты жахлівы фінал не быў нечаканы.

У кастрычніку 1967 года Васіленка, зламаўшы замок у кватэры дырэктара школы Каўганава, уварваўся ў пакой і спрабаваў яго пабіць. З дапамогай суседа Каўганаву ўдалося выставіць Васіленку. Праз паўгадзіны, узяўшы нож, будучы забойца зноў буяніў у Каўганава, пагражаючы яму смерцю, але быў абяззброены. Пра гэта на другі дзень Каўганаў паведаміў пісьмова начальніку раённага аддзела міліцыі. Але ўзбудзіць крымінальную справу супраць Васіленкі міліцыя адмовілася. Ён быў пакараны ў адміністрацыйным парадку як за нязначнае хуліганства. Натуральна, усё засталося, як раней.

Я нездарма пачала свой артыкул цытатай з прамовы дзяржаўнага абвінаваўцы І. Малішэўскага па справе Васіленкі. Мне хочацца прывесці яшчэ адну вытрымку з гэтай прамовы: «Недарэчная смерць сумленнага чалавека ад рукі хулігана прымушае перш за ўсё гаварыць пра тое, чаму стала магчымым такое злачынства, якія прычыны садзейнічалі яму. Вядома, што п'яніца, хуліган распускае рукі там, дзе іх апускаюць другія. І невыпадкова сённяшні судовы працэс стаў працэсам не толькі над забойцам і хуліганам, але і над раўнадушнымі людзьмі. Не было б раўнадушных, не здарылася б гэтая сумная гісторыя, не пралілася б кроў. Не мінаваць дакору і начальніку Салігорскага райаддзела міліцыі за паблажлівыя адносіны да гэтага прапойцы, якога трэба было даўно ізаляваць ад грамадства. Трэба сур'ёзна спытаць у начальніка міліцыі і пракурора раёна, чаму яны прамаргалі будучага забойцу і не ізалявалі яго, хоць для гэтага былі ўсе падставы».

Слухаючы маіх пацыентак, я іншы раз з жахам думаю, ці не давядзецца «пост-фактум» спытаць у начальнікаў раённых аддзелаў мінскай міліцыі, як яны прамаргалі будучага забойцу і ці трэба было чакаць, пакуль ён ім зробіцца. Ці нельга ізаляваць яго, пакуль ён толькі хуліган?

Не магу я зразумець гэтых спакойных адносін да здзекаў з жанчыны. Калі хуліган пабіў на вуліцы прахожага, ён будзе абавязкова пакараны. І пакараны сурова. А калі ён гадамі б'е на вачах у дзяцей сваю жонку, патрэбна пацвярджэнне суседзяў, што так яно, бач, сапраўды і ёсць. Гэта робіцца са зразумелай мэтай: могуць быць нагаворы, і хто-небудзь можа пацярпець нявінна. Ну, што ж, крыху больш такту, таварышы з міліцыі, крыху больш жадання знайсці ісціну, дапамагчы чалавеку ў цяжкім становішчы, крыху больш асцярожнасці ў гутарцы з суседзямі, і вы атрымаеце ад іх патрэбныя звесткі.

Злодзей жа, злачынца таксама не сам прыходзіць з павіннай. Яго знаходзяць. Шукаюць і сведкаў. Чаму б не праявіць такую ж упартасць, каб даказаць вінаватасць п'яніцы, хатняга тырана, хулігана?

Гэта ж вельмі жахліва, што і развод далёка не заўсёды ратуе няшчасных жанчын ад здзекаў, пабояў і нават гібелі.

Здаецца, што яшчэ трэба! Табе не падабаецца жонка. Ты гадамі вучыў яе розуму лаянкай і кулакамі, а яна ўсё не рабілася лепшай, не піла з табой разам гарэлку, спрабавала прыхаваць грошы, каб купіць што-небудзь дзецям, займалася справамі, зусім не вартымі тваёй увагі: выхаваннем дзяцей, працай, мыццём, гатаваннем абедаў. Ды яшчэ і была няўдзячная, калі ты прыходзіў дадому, праўда, п'яны, але ўсё ж прыходзіў; ды яшчэ і плакала, калі ты крышачку паб'еш. Ёй, бачыце, крыўдна! Скажыце, якая гордая!

Ну, вось суд развёў, падзялілі дом, і жыві сабе адзін. Ніхто не будзе цябе чакаць вечарамі, не будзе маўклівага дакору ў вачах, які даводзіў цябе да шаленства. Займайся сам сваёй персонай, жыві, як хочаш.

Дык не, зноў кепска. Ходзіць побач ажыўшая, нязбітая жанчына, высока носіць галаву, цешыцца спакоем. Табе ж гэта крыўдна! Табе ж няма спакою!

Так прыкладна я разумею псіхалогію, унутраны свет гэтых людзей.

Напэўна, такім быў жыхар горада Лоева В. Краўчанка. Тая ж банальная гісторыя: шмат гадоў біў жонку, не раз кідаўся на яе з сякерай. А яна ўсё была ранейшая: працавітая, гаспадарлівая, ласкавая і адданая маці. Працавала медсястрой у бальніцы, гадавала дзяцей. Але вось дзеці выраслі. Выйшла замуж і паехала дачка, адзін сын паступіў ва універсітэт, другі ў вучылішча. Не захацела, не змагла жанчына цярпець больш хатнюю катаргу. Падала на развод, падзяліла дом.

Нам, нармальным людзям, здаецца, што цяпер усё павінна стаць на свае месцы. У яе свой жыццёвы шлях, у яго—свая дарога. Але тут мы маем справу не са звычайным чалавекам, а з чалавекам-зверам, чалавекам-пачварай. Не ўратаваў развод лоеўскую медсястру. Забойца ж, перастаўшы быць мужам, жыў у адным доме са сваёй былой жонкай. Ён забіў яе першага мая 1970 года, пасля таго, як яна, выступіўшы на святочным мітынгу, вярнулася дадому. Жанчына ведала, што ў адным доме з ёю жыве злачынца, таму, калі сыны ішлі ў кіно, прасіла замыкаць яе ў пакоі знадворку, магчыма, яна лічыла, што ён падумае, быццам у доме нікога няма.

Вось чаму, калі Краўчанка стрэліў у яе з паляўнічай стрэльбы праз акно і параніў у руку, яна не змагла ўцячы, ёй не было куды схавацца.

Я чытаю так званае нагляднае судавядзенне, узятае ў пракуратуры. У ім няма ні паказанняў сведак і злачынцы, ні прамоў пракурора і адваката, толькі голыя факты: тлумачэнне прычыны арышту, абвінаваўчае заключэнне і прыгавор. І нават з гэтай коратка выкладзенай нагляднай справы можна ўявіць, як гэта адбывалася. Пасля першага стрэлу няшчасная ахвяра ляжала на падлозе з раздробленай рукой, маліла забойцу: «Пакінь мяне. Ну хоць бы дзеля дзяцей, яны ж яшчэ не сталі на ногі!»

Маліць пачвару, маліць звера няма сэнсу. Яшчэ тры разы страляў Краўчанка, пакуль не забіў сваю ахвяру.

Загублена чалавечае жыццё. Зроблена злачынства, роўнага якому па цяжары няма, таму што «вынікі злачынства нельга пакрыць, бо нанесеная шкода не мае роўнага эквіваленту, яе нічым нельга кампенсаваць» (з абвінаваўчай прамовы старшага памочніка пракурора Мінскай вобласці саветніка юстыцыі Г. Маслыка па справе Купрацэвіча).

І гэта забойства не выпадковае. Да гэтага ж прайшло шмат гадоў беспакараных пабояў, пагроз. Як шкада, што няма закона, паводле якога б міліцыя магла проста выселіць з горада хулігана і п'яніцу — спачатку ён павінен быць аддадзены пад суд. Ну, дык трэба было аддаць пад суд, пакуль ён не стаў забойцам, да таго, як загінула жанчына—працаўніца, маці трох дзяцей. Хіба не было падстаў?

І калі ў справе Краўчанкі можна зрабіць хоць нейкую скідку для грамадскіх арганізацый і міліцыі (першая судзімасць, магчыма, не было частых сігналаў ад жонкі), то ў іншых справах пра забойствы і катаванні фігуруюць рэцыдывісты.

23-гадовы Купрацэвіч, які забіў сваё васьмімесячнае дзіця, ужо ў 18 гадоў быў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі за тое, што біў пер-



«Беларуская кадрыля» ў выкананні народнага ансамбля танца БССР.

Фота Ул. КРУКА.

# АГНІСТАЙ МОВАЙ ТАНЦА

Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі паказвае новую канцэртную праграму. Як і заўсёды ў эксперыментах і шуканнях гэтага калектыву ёсць спрэчныя моманты, ёсць і тое, што знаўцы называюць «адкрыццём» і нават «новым словам».

Нам давялося пабываць на рэпетыцыі, дзе артысты зноў і зноў штосьці правяралі, удакладнялі, знаходзілі нюансы, ад чагосьці адмаўляліся...

Гучыць гармонік. Танцоры — хто ў чым: канцэртныя касцюмы пакуль што ў шафах. Калі справядліва, што талент на тры чвэрці складаецца з умення працаваць, то тут, у мастацтве харэаграфіі, гэта бачыш увачавідкі. А там, на канцэртнай эстрадзе, нам будуць здавацца імправізацыямі і толькі што народжанымі экспромтамі амаль кожны піруэт і нават кожны нумар.

...Педагог - рэпеці т а р Марк Клят б'е ў далоні:

— Стоп! Паўтараем «Тачанку» з другога калена. Заняць пазіцыі! І— р-раз!..

На сярэдзіну залы вылятаюць віхурай коннікі. «Ты лети с дороги, птица», — наярвае гармонік. Агністы танец, дзе няма ніводнага запаволенага руху.

Толькі растанцаваліся — стоп! Марк Мацвеевіч тлумачыць, што вось тут, у гэтым месцы, не выходзіць, парушаецца малюнак танца.

Усё пачынаюць спачатку.

Гэтае слова «Паўторым!» гучала на той рэпетыцыі не адзін раз. А пасля прыйшоў мастацкі кіраўнік ансамбля Аляксандр Рыгоравіч Апанасенка і сказаў, што яго непакоіць «Сувенір», што не шкодзіла б паглядзець танец яшчэ раз. Не скажам, што танцоры вельмі рады былі гэтай прапанове. Рэпетыцыя ж ішла ўжо дзве гадзіны. Але дысцыпліна ёсць дысцыпліна...

Мяркуючы па рэакцыі Аляксандра Рыгоравіча ўсё як быццам ідзе добра. Толькі дзве-тры памаркі, якія тут жа выпраўляюцца. Аляксандр Рыгоравіч нават паспявае тлумачыць нам:

— Тут будзе белы абрус. А гэта «палавыя»: яны выбягаюць з ручнікамі.. Той танцор, у сярэдзіне, будзе трымаць вялізны самавар...

«Сувенір» — адна з трох новых работ канцэртнай праграмы, падрыхтаванай да XXIV з'езда КПСС.

— Гэта харэаграфічная сюіта, якая ўваскрашае старую рускую гасціну з чаем, на жаль, амаль забытую зараз, — расказвае Аляксандр Рыгоравіч. — Другая наша прэм'ера — «Цыганская рапсодыя», у якой мы рашылі паказаць сапраўднае мастацтва гэтага таленавітага народа, адысці ад «цыганшчыны», якую, бывае, прасоўваюць на эстрадныя падмосткі.

Але самай галоўнай, я б сказаў — этапнай, работай, якую мы прысвячаем знамянальнай падзеі — форуму камуністаў краіны, — з'яўляецца харэаграфічная карціна «Хатынь».

Пра Хатынь шмат напісана. Пра яе трагедыю расказана ў камені і бронзе, у музыцы... Настала і наша чарга — харэаграфіі... Зразумела, вельмі складана перадаць мовай танца трагедыю беларускай вёскі, якую з усімі яе жыхарамі спалілі фашысцкія карнікі.

Аляксандр Рыгоравіч, аўтар лібрэта і пастаноўшчык гэтай работы, расказвае пра яе, хвалюючыся:

— Уявіце сабе сцэну ў водблісках зарыва, па якой ідзе стары, ідзе паміж спаленых аднавяскоўцаў. Стары шукае сына, які ў тую жахлівую мінуту расстрэлу быў недзе побач. Нарэшце, знаходзіць яго і нясе на руках..

Лейтматыў карціны — людзі нараджаюцца не для таго, каб вось так страшна загінуць. Яны нараджаюцца для шчасця. Не, не і не — смерці, не — вайне!

Наша ўвасабленне «Хатыні» будзе жыццесцвярджальным па сваймy пафасу. На месцы знішчанай вёскі, спаленых людзей, на фоне комінаў на сцэне ўзнікнуць тры бярозкі — нібы сімвал усёперамагаючага жыцця... Таго жыцця, дзеля якога і змагаліся савецкія людзі.

Спадзяемся, што глядач скажа сваё слова пра нашу новую работу. Дадамо яшчэ, што музыку да «Хатыні» напісаў Алег Янчанка, кампазітар, які адчувае драматызм такіх калізій... Рэпеціруем. І не спяшаемся ўключаць «Хатынь» у праграму канцэртаў. Тут трэба дамагацца філіграннай распрацоўкі.

...Праз некалькі дзён пасля нашай гутаркі ў Дзяржаўнай філармоніі адбылася творчая справаздача Беларускага дзяржаўнага ансамбля танца, прысвечаная XXIV з'езду КПСС і XXVII з'езду Кампартыі Беларусі. Зала горача апладзіравала паэтычнаму «Лянку» і імклівай «Мяцеліцы», гарэзлівым «Хлопцам Палесся» і новым работам, пра якія мы расказалі, — «Сувеніру» або «Чаю па-руску» і «Цыганскай рапсодыі».

Наперадзе ў ансамбля новыя дарогі, новыя маршруты, а яны пралягаюць не толькі па нашай рэспубліцы — па ўсім Саюзе, па многіх зарубежных краінах.

Новага плёну яму!

М. ГАРОХАЎ.

шую жонку, за пагрозу забойства і злоснае хуліганства. Ажаніўшыся другі раз, біў цяжарную жонку, яе бацькоў, выганяў іх з дома, падпальваў хлеў і рубаў сякерай жончыны рэчы. Шмат разоў пагражаў забіць дзіця.

Як тут апраўдае сябе грамадскасць, міліцыя? Праўда, 25 лютага ён быў адміністрацыйна пакараны, а 12 сакавіка ў міліцыі яго афіцыйна папярэдзілі, але гэта не зрабіла на яго ўражання. І 10 чэрвеня ён забіў васьмімесячнага сына такім страшэнным і дзікім спосабам, які не можа прыдумаць нават самая жудасная фантазія: замкнуў дзіця на замок і падпаліў дом.

Я не юрыст і мне цяжка меркаваць аб пакаранні, якое належыць за тое ці іншае злачынства. Але адміністрацыйнае спагнанне, папярэджанне ў міліцыі за хуліганства, пагрозу забойства і падпал хлява,—ці не занадта паблажліва? Увогуле, мяне не здзіўляе, што ўсё гэта скончылася трагедыяй.

Я павінна агаварыцца, што ўсе злачынцы, пра якіх я пішу, псіхічна нармальныя людзі.

Анейчык В. І., якога судзілі ў студзені 1970 года, таксама чалавек з непарушанай псіхікай, хоць у гэта цяжка паверыць, чытаючы судовую справу. У 1969 годзе ён быў асуджаны на год пазбаўлення волі за дэбошы, але вызвалены датэрмінова, як чалавек, які прыкладна паводзіў сябе ў зняволенні, прымаў удзел у грамадскім жыцці.

Ён вярнуўся да жонкі і двух сыноў, якія без яго атрымалі два пакоі ў агульнай кватэры. Трэці пакой займала адзінокая, пажылая жанчына. Жыццё ў кватэры стала немагчымым. Біў жонку і ламаўся ў дзверы да суседкі, патрабуючы, каб яна выбралася з «яго» пакоя. Вось два эпізоды з іх жыцця, узятых з судовай справы.

«24 верасня муж прыйшоў дадому п'яны і, убачыўшы, што я гатую бульбу, сказаў, каб я зрабіла пюрэ. Калі пюрэ было гатова, ён сказаў, што я зрабіла не так, як трэба, і мы з сынам зноў пачалі абіраць для яго бульбу. Ён схапіў патэльню з пліты, каб мяне ўдарыць, а потым пачаў вымагаць, каб я пайшла па гарэлку. У мяне не было грошай, а ён мяне пабіў. А сына ўдарыў у твар за тое, што ён са мной гаварыў».

Ударыў сына за тое, што той гаварыў з маці!

«22 кастрычніка кінуў акурак на падлогу і запатрабаваў, каб я яго падняла. Калі я адмовілася, ён пачаў патрабаваць, каб я стала перад ім на калені...»

Прыводзячы гэты выпадак, я хачу сказаць не толькі пра дарослых, якія пакутуюць у адной кватэры з хуліганам. Мяне хвалюе лёс двух хлопчыкаў 7 і 10 гадоў—Юры і Віці Анейчыкаў. Дзеці заўсёды прыходзілі ў школу з сінякамі. Віця аднойчы прыйшоў з сінімі плямамі на шыі—бацька яго душыў. Ціхія, запалоханыя, вучыліся яны дрэнна. Але іншы раз на бацьку находзілі прыпадкі «любві» да сыноў. І тады... ён прымушаў іх піць віно, нават вадзіў для гэтага ў кафэ. «Калі не вып'еце, не дам торт». Вось як гаворыць пра гэта Віця:

«У той дзень бацька прыйшоў п'яны і прымусіў мяне і Юру выпіць віна. Яно было вельмі моцнае, мы ап'янелі і пачалі сваволіць. Тады бацька ўдарыў мяне кулаком у твар. Я страціў прытомнасць і не памятаю, ці біў ён мяне яшчэ. Калі апрытомнеў, то ўбачыў, што з носа ў мяне цячэ кроў і ўся кашуля ў крыві... Я вельмі прашу, каб бацьку пасадзілі ў турму, хоць на той час, пакуль мы з Юрам нямнога падрасцём».

А вось што расказвае Юра:

«Бацька ўзяў агурок і загадаў нам з Віцем трымаць яго за абодва канцы. Потым ён замахнуўся нажом і хацеў ударыць па пальцы Віці. Але Віця прыняў руку, а я ўсё трымаў агурок. Тады бацька разрэзаў мне палец... Убачыўшы кроў, ён сказаў: «Давай я табе прысыплю», і пасыпаў соллю. Мне вельмі балела, але я не плакаў, бо баяўся таты».

Анейчык, «які выправіўся» ў 1969 годзе, пасаджаны, і ёсць надзея, што два хлопчыкі, Юра і Віця, стануць нармальнымі, паўнацэннымі людзьмі, што страшны след, пакінуты ў іх душах, згладзіцца. Маці, школа ў неаплатным даўгу перад гэтымі дзецьмі. І яны павінны гэты доўг выканаць.

А якім вырасце Міша, які робіць урокі ў рэгістратуры нашай паліклінікі, што будзе з дзецьмі Раісы Волкавай і дачкой Тацяны Смірновай? За іх мне балюча, пра іх, мне здаецца, трэба падумаць цяпер у першую чаргу.

Я ўрач, і натуральна, у мяне ўзнікаюць адпаведныя асацыяцыі. Мы змагаемся за кожную мінуту, кожную гадзіну жыцця нават невылечна хворага. Кожны дзень, адваяваны намі для хворага, наша перамога. Мы змагаемся з усіх сіл. Таму, што няма дару каштоўнейшага за жыццё, нават калі гэта ўсяго толькі адзін дзень.

А дзесьці ў замкнутай хатняй турме нягоднік і садыст метадычна і беспакарана адбірае ў жанчыны гадзіны, месяцы, гады жыцця. Дзесьці непапраўна калечацца кволыя, безабаронныя дзіцячыя душы! Мы не маем права не заўважаць гэтага, мы не маем права не ўмешвацца! Кожны з нас павінен азірнуцца, убачыць і падумаць, што ён можа, што ён абавязан зрабіць.

Мы, медыкі, ведаючы, што бываюць бессімптомныя выпадкі туберкулёзу, штогод робім рэнтгенаўскія здымкі мільёнам людзей, каб не прапусціць такі выпадак. У хворага анацыдным гастрытам можа ўзнікнуць рак страўніка. І мы рэгулярна аглядаем усіх хворых на гэтую хваробу. Бо калі ёсць хоць якая апаска, што хворы можа захварэць ракам, а ад нашай увагі, ад нашай насцярожанасці залежыць магчымасць своечасова захапіць пачатак хваробы, мы абавязаны зрабіць і мы робім усё, што ў нашых сілах.

Ці не трэба шырэй карыстацца гэтым прафілактычным метадам і органам міліцыі? Калі ёсць апасенне, што з тысячы хуліганаў, якія пагражаюць смерцю сваім блізкім, хоць адзін выканае сваю страшную пагрозу, ці не з'яўляецца святым абавязкам грамадскасці не дапусціць гэтага ўсякімі спосабамі—своечасовай ізаляцыяй, пастаянным, самым уважлівым наглядам.

Заканчваючы артыкул, хачу сказаць, што ўсе прозвішчы, узятыя з судовых спраў, сапраўдныя. Прозвішчы ж маіх пацыентак я замяніла. Чаму? Я думаю, чытачу няцяжка здагадацца. Мне страшна за іх, маіх і яшчэ чыіх-небудзь пацыентак, жанчын з дзецьмі, чыіх-небудзь сясцёр, чыіх-небудзь калег на рабоце.

Гэтыя нататкі расказваюць пра факты выключныя, не ўласцівыя нашай рэчаіснасці, нашай маралі і этыцы. «У сацыяльнай палітыцы партыі, у клопатах пра чалавека праяўляецца рэальны гуманізм нашага грамадства», — гаварыў у Справаздачным дакладзе XXVII з'езду Камуністычнай партыі Беларусі першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў.

Так, наш савецкі гуманізм самы высокі ў свеце. І разам з тым, наш гуманізм ваяўнічы, ён змагаецца за перамогу светлага і чыстага ў чалавеку, у адносінах паміж людзьмі. Наш гуманізм прадугледжвае актыўнае супрацьўленне ўсяму, што перашкаджае нам жыць і працаваць.

З пошты ЛіМа

# СЯБРЫ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Кіёск «Саюздруку», што на Мінскім аўтобусным вакзале, я прыкмеціў даўно. Не магу знайсці патрэбнага нумара часопіса — еду на аўтавакзал. Спатрэбіўся яшчэ адзін экземпляр «ЛіМа» (а ў другой палове дня газету ў Мінску знайсці амаль немагчыма)—зноў туды ж.

Пазней захацелася бліжэй пазнаёміцца з дзвюма сімпатычнымі жанчынамі — гаспадынямі кіёска. Коган Сара Якаўлеўна... Дваццаць два гады прадае газеты і часопісы, сем гадоў (з часу адкрыцця)—у кіёску № 104. Багалюбава Тамара Пятроўна. З васьмі гадоў працы ў «Саюздруку» пяць аддала абслугоўванню пасажыраў аўтавакзала.

—Ці ахвотна купляюць беларускія выданні?

— Яшчэ як! Мяркуйце самі. Штомесяц мы прадаём амаль дзве з палавінай тысячы экземпляраў «Вожыка», трохі меней—«Работніцы і сялянкі», тысячу — «Беларусі», сто дваццаць—«Маладосці», больш ста—газеты «Літаратура і мастацтва»

Пра формы прапаганды выданняў я ўжо не пытаюся. Пачаў друкавацца раман І. Пташнікава «Мсціжы» ў «Полымі»—на прылавак кіёска лёг нумар часопіса, адгорнуты на патрэбнай старонцы. Гэтак жа паказалі пакупнікам, што публікуецца ў «Маладосці» раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі».

А ўважлівая добразычлівая парада, ласкавае слова! Хіба яны мала значаць у практыцы кіяскёра?

Вядома, само месца кіёска дае значныя перавагі ў распаўсюджванні перыёдыкі. Але, як кажуць, не заўсёды месца ўпрыгожвае чалавека...

Ва ўпраўленні «Саюздруку» даведваюся, колькі газетных кіёскаў у Мінску і ва ўсёй рэспубліцы. Аказваецца, адпаведна —200 і 863. У думках множу гэтыя лічбы на колькасць часопісаў, што рэалізуюцца ў гэтым кіёску. Якая ўнушальная атрымліваецца лічба!

Зразумела, ва ўсіх кіёсках так продаж не можа ісці. Але, калі б лепей была арганізавана справа, дык тыражы нашых перыядычных выданняў маглі б вырасці на добрую трэць гэтай лічбы.

Вячаслаў РАГОЙША.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Мікола КУЗНЯЦОЎ

## СУСТРЭЧА НА ПЕРОНЕ

У СТАЛІЦУ я прыехаў надвячоркам, і адразу перада мной у поўную велічыню паўстала нявырашанае пытанне: дзе знайсці начлег? Каб ісці ў гасцініцу ў такі позні час, не магло быць і гаворкі: яшчэ з мінулага года, калі я таксама прыязджаў па справах, стаіць у маіх вушах адзіны для ўсіх адміністратараў адказ: «Свабодных месц няма!» Пакутуючы ў думках, што прыйдзецца правесці ноч на вакзале, я выйшаў з вагона, і хадой чалавека, якому некуды і нечага спяшацца, накіраваўся да вакзала.

— Анатоль, ці ты гэта? — раптам пачуў голас, які нешта мне нагадваў. Павярнуўшыся, я ўбачыў хударлявага перагнутага мужчыну прыкладна маіх год, абчаплянага з усіх бакоў сумкамі, чамаданамі і сеткамі. На ім быў кароценькі кляёнчаты фартух, сінія форменныя штаны, а на грудзях вісеў бліскучы кружок з нумарам і надпісам: «Насільшчык».

— Колькі авансаў, колькі палучак! — працягнуў мне руку мужчына. — Не пазнаеш свайго школьнага сябра Алёшку Перагуда? Ну, багаты буду — не пазнае!

Я хутчэй па няправільным выгавары літары «р», чым па абліччы ўцяміў, што сапраўды перада мной школьны сябар.

— Якімі вятрамі да нас? — спытаў Аляксей, калі мы выйшлі на Прывакзальную плошчу да стаянкі таксі. Адным вокам ён пазіраў на мяне, а другім пільна сачыў, колькі медзякоў адлічвае яму жанчына за паслугі.

— Дык ты на перападрыхтоўку? — перапытаў ён, нарэшце. — Ты, пэўна, вялікая шышка на роўным месцы, калі аб табе так клапоцяцца?

— Шышка невялікая, — адказаў я ў тон субяседніку. — У школе выкладаю.

— О-о-го, — жахнуўся Аляксей. — Грошы, відаць, лапатай заграбаеш? — ацэньваючым поглядам акінуў ён мяне з ног да галавы. — Нішто касцюмчык, рублёў на 150. Колькі атрымліваеш?

— Сто дваццаць. — Мне стала няёмка за сябра дзяцінства, які разглядваў мяне як музейны экспанат.

— А ты — на вакзале працуеш? — перабіў нарэшце я субяседніка.

— Якое там, — засмяяўся Аляксей. — Падрабатваю.

— Вялікія расходы? — паспачуваў я.

— Як табе сказаць? — сумеўся ён. — Грошы — вада. Колькі іх ні май, усё роўна мала здаецца. Працую сантэхнікам і па сумяшчальніцтве слесарам па газе...

У мяне быў, напэўна, здзіўлены твар.

— Думаеш, цяжка? Адна забава: кантрольныя абходы тады-сяды раблю, а так... болей жонцы дапамагаю. Яна ў мяне малайчына, у чатырох магазінах прыбіральшчыцай паспявае. Атрымліваем удваіх ладны кусман. Толькі грошы — гэта так, хобі. Можна сказаць, перажытак мінулага. Рэчаіснасць — іншая справа... Ты памятаеш, Толік, як мяне з рэчкі цягнуў, калі я на тонкім лёдзе праваліўся? З табой за гэта можна было б бутэльку распіць, ды жонка грошы прыхавала...

— Дробязі, — сказаў я. — Няўжо ты не зрабіў бы тое самае, калі б на тваім месцы апынуўся я?

Аляксей зрабіў выгляд, што не пачуў, працягваў сваё.

— Дзесьці сядзіць мая прыгажуня дома, а мо кватарантаў шукае. Разумееш, кватэра трохпакаёвая, з усімі выгодамі, а кватаранты збеглі. Што ім не спадабалася — не разумею. О, дарэчы. Ты ж тут заездам, табе кватэра мо хоць на тыдзень патрэбна? Не хвалюйся, дорага не вазьму. Усё-такі школьны сябра!

Я выціснуў з сябе ўсмешку.

— Не хвалюйся, калі ласка. Мяне чакае першакласны нумар з устаноўкай для кандыцыянаванага паветра.

Я зрабіў некалькі крокаў насустрач цямнеючаму гораду і раптам адчуў, быццам з мяне зваліўся цяжкі груз.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.








Ля труны начальніка.



— А потым ён заняўся выбуховымі рэчывамі...

## З ПАДСЛУХАНАГА

— Дырэктар выйшаў на хвілінку. Зайдзіце праз гадзінку.

— Ваша сямейнае становішча?
— Шматсямейны.

— Чаму яго празвалі мікраспеваком?
— Бо спявае толькі з мікрафонам.

— Ты ведаеш які-небудзь рэцэпт супраць кахання з першага позірку?
— Так. Трэба зірнуць яшчэ раз.

— Варта мне выпіць крыху больш нормы, як на целе з'яўляюцца сінія плямы.
— Гэта мне знаёма. У мяне такая ж энергічная жонка.

Запісаў Р. БОХАН.

— Калі б мой муж кінуў піць, я б яму паўлітэрку паставіла.

Запісаў В. БАРОДЗІЧ.

МЕГАН

## ПАДАБЕНСТВА

Пасля тыднёвага адпачынку ў Рабленскім пансіянаце «Прадвесне» баранеса Салавейчык вярнулася ў Варшаву.

— Рассеялася трохі? — спыталі мы.

— Так, — адгукнулася баранеса. — Было даволі цікава.

— Кампанія прыемная? — ветліва запытаў Бяспальчык.

— Нічога асаблівага, — адказвае. — Хіба толькі адзін пан быў так падобны на паэта Кошана, што проста не верылася. Блізняты, як дзве кроплі вады.

— Можа гэта і быў паэт Кошан уласнай персонай? — умяшаўся ў гаворку пан Куця. — Мог адпусціць бародку і паехаць у Рабленку, каб паглядзець, што з гэтага будзе.

— Зусім не Кошан, — запратэставала баранеса. — Прозвішча яго Фабісяк і быў ён без бародкі. Усе ночы напралёт у холе гуляў у покер.

— Здараецца дзівоснае падабенства, — азваўся магістр Канкульчынянскі.—Часам прырода двойчы карыстаецца аднымі і тымі ж матрыцамі.

— Здаецца, я ведаю таго Фабіяска, — прыгадаў Бяспальчык. — У карты круціць.

— Раздае так, што можна трэснуць ад смеху, — пацвердзіла баранеса. — Даволі прымітыўны тып.

— Факт, яму не шанцуе, — згадзіўся Бяспальчык. — Найчасцей перабірае. Калі цвярозы, бывае і добрым чалавекам.

Баранеса паціснула плячамі.

— Цвярозым я яго не бачыла. Аднойчы напісаў на мяне скаргу ў кіраўніцтва пансіяната за тое, што я не пазычыла яму сто злотых.

— Ніколі я не чуў, каб ён каму аддаў пазычаныя грошы, — сказаў Бяспальчык. — Дробны зладзюга і ашуканец.

— І крэтын, — дадала баранеса. — Адной пані пагражаў, што напіша на яе данос за левыя перакананні.

— Нешта зашкодзіла небараку, — паспачуваў Бяспальчык. — Бракуе інтэлігентнасці.

— Увогуле, даволі цяжкі тып, — выказаўся пан Куця. — А з твару таксама падобны на паэта Кошана?

— З твару не, — запярэчыла баранеса Салавейчык. — Выглядае прыстойна і зусім у іншым родзе.

Пераклад з польскай В. ЛЯШЭВІЧА.

Паўло ТЫЧЫНА

## ПАРАДА ПАЭТАМ

Трохі не даспіш,
трохі не даясі —
і вершы добрыя пішуцца.
Мараль: калі хочаш
быць паэтам, —
не спі ўлежна,
не еж уежна.
Старайся быць тонкім,
каб хмель паэзіі
вакол цябе
віўся.

Пераклаў з украінскай Ю. ГАЎРУК.

Мікола ВЯРШЫНІН

## СКАРАЦІЎСЯ

Перш вершы доўгія пісаў,
За што крытыкавалі.
Ён карацей пісаць пачаў —
Яго ўжо друкавалі.

Найкарацей! І прынцып той
Стаў рысаю натуры.
Не браўся болей ні за што,
Пісаў мініяцюры.

Нашто, падумаў ён затым,
Пакуты, пераробкі!
Шчэ скараціўся. Скончыў тым,
Што піша толькі ...кропкі.

С. ПАПАР

## НАРАДЖЭННЕ ПІСЬМЕННІКА-КАРОТКАФРАЗАВІКА

— Раман — нудна... Аповесць — доўга... На апавяданне — таксама не хапае цярпення... І куды падзець мудрыя думкі?

А. МАХНАЧ

## АБАРАНІЎСЯ

У навуковым інстытуце гадоў пяць
Карпеў вучоны над праблемай.
«Як голымі рукамі вожыка узяць!» —
Была ягонай працы тэма.

«Каб голымі рукамі вожыка узяць,
З яго калючкі трэба сашчыпаць».
Ён вывад гэтакі зрабіў
І кандыдацкую... абараніў.

г. Орша.

## МІМАХОДЗЬ

Іосіф ЛЕШАНЮК

*Не лятай высока—нізка сядзеш.*

□

*У сумленнага сумлення не пытай — яно відаць.*

□

*Умей нырнуць і вынырнуць.*

М. ШУЛЬГА

*Гавораць аб мяккіх, цвёрдых і зацвярдзелых літарах. А хіба хто іх на зуб прабаваў?*

□

*Калі б авадзень працаваў, яму не было б часу кусацца.*

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 09621

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.